НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 11 (752) 21 сакавіка 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць шт… …ады



## Каму перашкаджаюць прыдарожныя лесапалосы?

Мэта высечкі — пашырэнне пасяўных плошчаў. Але як жа бяспека і здароўе? Старонка 9.

# Дзень Волі ў цэнтры горада

Шэсце **25 Сакавіка** пройдзе ад Акадэміі навук. **Старонка 2.**




Тэндэнцыі

## Расстралялі

«Ад іх смерці мала каму стала лягчэй, хутчэй наадварот — **адчуванне дзікасці**», — напісаў нападаючы зборнай Беларусі па футболе Віталь Радзівонаў.

14 сакавіка дзяржаўныя тэлеканалы паведамілі, што Аляксандр Лукашэнка адмовіўся памілаваць Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Віцебскіх хлопцаў, якія былі прызнаныя вінаватымі ў выбухах 2005, 2008, 2011 гадоў.

Зрэшты, прашэнне аб памілаванні пісаў толькі Кавалёў. Канавалаў маўчаў у судзе, маўчаў і пасля працэсу. Прашэнне Кавалёва разглядалася больш за тры месяцы. 11 сакавіка родныя ў апошні раз бачылі Улада.

Канавалаў і Кавалёў былі арыштаваныя 12 красавіка. На наступны дзень пасля выбуху на станцыі «Кастрычніцкая». Іх затрымалі на кватэры па вуліцы Караля ў Мінску. Паводле афіцыйнай версіі, Канавалава пазнаў у краме па фотаробаце міліцыянер. Хаця на судзе гучала, што з кватэры Канавалаў не выходзіў. Якім чынам на тэрарыстаў так хутка выйшлі — засталося пытаннем.

Віну Канавалава даказвалі відэа з метро і адбіткі пальцаў на ранейшых выбуховых прыладах. Доказы віны Кавалёва — суд палічыў, што ён ведаў пра намер Канавалава зладзіць выбух — грунтаваліся на прызнавальных паказаннях у часе следства.

**Працяг на старонцы 3.**

Палітыка

### У Маскве Лукашэнка трывожна кусаў губы

Адносіны Беларусі і ЕС ля небяспечнай рысы. **Старонка 4.**



Грамадства

### Плата за паліклініку

Канадскі досвед: дзяржаўная медыцына, але іншая сістэма. **Старонка 6.**




Крымінал

### «Можаш атрымаць 82 тысячы даляраў, а можаш усё страціць»

«МММ» дзейнічае, нягледзячы на рэйд КДБ. **Старонка 10.**



Тэлевізар

### За кулісамі прапагандысцкага тэлешоу

«Баранаў ні ў чым не вінаваты!» **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Дзень Волі ў цэнтры горада

**Заяўка** арганізатараў святкавання **задаволеная** па ўсіх пунктах.

Аналітыкі называюць гэта вынікам ціску Еўрасаюза: упершыню ад часу Плошчы ўлады дазволілі маніфестацыю ў цэнтры Мінска. Збор удзельнікаў распачнецца а 13.30 побач з будынкам Акадэміі навук, што каля аднайменнай станцыі метро. З улікам таго, што акцыі на Дзень Волі ў рэгіёнах пераважна не дазволілі, у Мінск з'едуцца людзі і з абласцей.

Заяўку на святкаванне 25 сакавіка Дня Волі арганізатары падалі ў Мінгарвыканкам 23 лютага. Станоўчы адказ ад сталічных чыноўнікаў яны атрымалі а 10-й раніцы 20 сакавіка — гэта быў апошні дзень, калі ўлады мусілі адказаць, ці дазваляюць яны шэсце.

Па словах старшыні аргкамітэта, дырэктара Гуманітарнага ліцэя Уладзіміра Коласа, на сустрэчу ў Мінгарвыканкам прыйшоў і палкоўнік Яўсееў са сталічнай міліцыі правапарадку. Ён выказаў спадзяванне, што святкаванне пройдзе без эксцэсаў.

«Не будзе ніякіх перашкодаў у выкарыстанні нацыянальнай сімволікі», — паведаміў Віктар Івашкевіч. «Гэтая дата павінна яднаць нас усіх», — дадае Уладзімір Колас.

**МБ**




**Што такое Дзень Волі?**

Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі была аб'яўлена ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 у Мінску. Гэты дзень з часам атрымаў назву Дзень Волі. Пачынаючы з канца 1980-х, у Мінску яго адзначаюць масавымі вулічнымі маніфестацыямі. Яны яднаюць розныя палітычныя сілы, што выступаюць за незалежнасць, дэмакратыю і еўрапейскі выбар.

**Дзень Волі ў свеце**

**Масква. Сустрэча са Скурко і выступ Вайцюшкевіча**

Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны запрашае на сустрэчу з Андрэем Скурко, рэдактарам «Нашай Нівы». Спяваць будзе Зміцер Вайцюшкевіч. Па заканчэнні мерапрыемства — сяброўская вячэра ў кавярні «Белая Русь». 24 сакавіка а 13.00, Расійская дзяржаўная бібліятэка, Ваздзвіжанка, 5/3.

**Нью-Джэрсі. Банкет беларусаў ЗША**

Беларусы Амерыкі з'едуцца на Дзень Волі ў Нью-Брансвік (штат Нью-Джэрсі). Урачыстая Акадэмія, банкет і канцэрт адбудуцца **25 сакавіка а 12.30** у Garden State Ballroom гатэля Hyatt Regency па адрасе: 2 Albany Street, New Brunswick, New Jersey. Перад імпрэзай а 10-й раніцы адбудзецца Святое Набажэнства ў Царкве Св. Маці Божай Жыровіцкай у Highland Park. Квіткі па замове: $55 дарослым, $45 студэнтам. Квіткі пры дзвярах: $65 дарослым, $55 студэнтам.

**Вільня. Беларускі тыдзень**

Імпрэзы пройдуць у Сойме і Ратушы. А 25 сакавіка а 12-й на могілках Росы і Ліпоўка адбудзецца ўскладанне кветак на магілы падпісантаў Акта аб абвяшчэнні незалежнасці БНР. А 13-й стартуе святочны аўтапрабег па Вільні і да літоўска-беларускай мяжы.

**Мюнстэр. Беларусы Нямеччыны святкуюць да ўпаду**

«Мерапрыемства пачнецца 24 сакавіка (субота) а 19.00 і да ўпаду», — пішуць у абвестцы беларусы Нямеччыны. — Свята адбудзецца ў хатняй атмасферы, плануецца святочны стол, беларуская музыка і спевы. У сустрэчы ўжо пацвердзілі ўдзел беларусы з Кіля, Гановера, Берліна, Таліна і Мюнстэра.

**Беласток. Малебен і канцэрт**

Літургія і малебен пройдуць у царкве Агія Сафія на вуліцы Травястай а 10-й гадзіне. А 14-й — паказ фільма і канцэрт у Доме культуры «Сподкі» на вуліцы Святога Роха.

**Варшава. Беларуская мара**

Беларусы Варшавы адзначаць Дзень Волі беларускай імшой, а таксама паказам фільма «Беларуская мара» і канцэртам Паліны Рэспублікі. Імпрэза адбудзецца ў клубе «Працоўня» (Папялушкі, 16).

**Больш інфармацыі — на nn.by**

# Каму перашкаджаюць прыдарожныя лесапалосы?

Вось якую **праблему паднімае чытач** Павел Давыдоўскі.

Ужо некалькі гадоў у Гродзенскай вобласці працягваецца вынішчэнне прыдарожных лесапалосаў. Першапачаткова гэтая з'ява мела лакальны характар, пасля стала масавай.

Якая карысць ад лесапалосаў, ведае кожны: яны ахоўваюць дарогу ад бакавога ветру і снежных наносаў, а таксама перашкаджаюць трапляць шкодным рэчывам з выхлапаў на палі і, адпаведна, ва ўраджай з гэтых палёў.

Спецыялісты змогуць гэты спіс дапоўніць і пацвердзіць лічбамі. На гэтую тэму напісаны дысертацыі і створаны адпаведныя стандарты. А вось нейкі чыноўнік, мабыць, проста махнуў з акна машыны: «давайце лучча зерновыя пасеем».

Што цікава, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі гэтую тэму не кранаюць. Затое праблема абмяркоўваецца ў інтэрнэце жыхарамі, шмат якія з іх незадаволеныя дзеяннямі ўладаў. У інтэрнэце распаўсюджванне атрымлівае версія, што рашэнне аб вынішчэнні лесапалос асабіста прымаў старшыня Гродзенскага аблвыканкама С.Шапіра.

Прычыны для хваляванне ёсць: нават калі прызналі б вынішчэнне лесапалосаў няправільным, на іх аднаўленне спатрэбіцца шмат гадоў, працы і грошай.

Калі афіцыйнай матывацыяй з'яўляецца тое, што бываюць аварыі з аўтамабілямі, якія ўехалі ў прыдарожныя дрэвы, то, заўважу, што лесапалосы высякаюцца і там, дзе яны складаліся з кустоўя і знаходзіліся на адлегласці ад шашы.

Найбольш праўдападобнай мэтай такіх дзеянняў з'яўляецца пашырэнне пасяўных плошчаў. Тут варта звярнуць увагу на такі момант: прыдарожныя землі афіцыйна ўсё адно не залічваюцца ў плошчу поля, і, засяваючы іх, можна павялічыць афіцыйна задэклараваную ўраджайнасць. А што ў сельгаспрадукцыі будуць канцэргены: прадукцыя будзе з усяго поля...




**Лесапаласа расла воддаль дарогі і затуляла поле ад выхлапаў.**

**Фота аўтара.**

**Працяг тэмы — старонка 9.**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сціслa**

**За ўзыход на Курган Славы пачалі браць грошы**

Білет каштуе ад 1500 да 3000 рублёў.

**АГП вылучыць і знімецца**

Аб'яднаная грамадзянская партыя вылучыць кандыдатаў у дэпутаты палаты прадстаўнікоў, якія «данясуць да беларусаў пасланне АГП» і знімуцца за пяць дзён да выбараў. Пра гэта паведаміў Анатоль Лябедзька.

**«Мы чакаем масквічоў з вялікімі інвестыцыямі»**

Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў на сустрэчы з мэрам расійскай сталіцы Сяргеем Сабяніным 20 сакавіка.

**«За-ста-ём-ся!»**

6 гадоў таму, 20 сакавіка 2006 года, на Кастрычніцкай плошчы паўстала намётавае мястэчка. У люты мароз яно пратрымалася 4 дні і ночы: прыклад гераізму моладзі ў барацьбе за свабоду.

**«Тут працуе БелАЗ»**

Прома-ролік беларускага аўтагіганта прызнаны найлепшым у Расіі. Ён апярэдзіў «Кока-колу», «Мегафон» і «Мэрседэс-бэнц».

**МБ**

**Трохі лірыкі**

Рыгор Шэрда

## Вясновы далягляд

**Рэфлексія** на метэаралагічную тэму.

Якое шчасце? Дзе той лад?
Працуй — пацей, Анёл-ахоўнік!
З краіны робячы штрафбат,
Тлусцее выскачка-чыноўнік...

Мацёры карупцыянер
Тут мае лютыя працэнты,
Хоць быў агучаны намер
Разбіць карупцыю дашчэнту...

Здаровы сэнс пад карані
Сякуць «апошнія навіны»,
Бо колькі зграю ні кармі,
Ёй люба кіраваць краінай...

Пад пазалотай — хам і кат,
Хвалько і невук, хлус і злодзей.
Ды страціў ён шляхі назад:
Вясна цалуе далягляд,
Запахла зменамі ў прыродзе...

**Самае чытанае на сайце nn.by 14—20 сакавіка**

1 Канавалаў і Кавалёў расстраляныя

2 На «Кастрычніцкай» прайшла акцыя супраць смяротнага пакарання

3 30 чалавек утварылі жывы ланцуг у доме Кавалёва ў Віцебску

4 Лукашэнка ў Маскве трывожна кусаў губы — фота

5 Маці Кавалёва: «Я ні перад чым не спынюся»

6 Лукашэнка адмовіўся памілаваць Кавалёва і Канавалава

7 Любоў Кавалёва 15 сакавіка: «Няма адчування, што ўжо здарылася самае страшнае»

8 Прафесар Крыштаповіч: Радзівілы, Сапегі, Агінскія не маюць нічога супольнага

9 Міліцыя патрабуе ад настаўнікаў даносіць на эма, готаў і антыфашыстаў — дакумент

10 Беларускі Nyan Cat пацяшае інтэрнэт

# Расстралялі

Працяг са старонкі 1.

Суд пачаўся 15 верасня. Ён быў адкрытым і доўжыўся больш за два месяцы. На працэсе Канавалаў прызнаў сваю віну, але адмовіўся даваць паказанні. Кавалёў жа заявіў, што паказанні з яго выбіваліся сілай і сваёй віны ён не прызнае.

Прысуд быў аднолькавым для абодвух — смяротнае пакаранне. Некаторыя ахвяры тэракта не вельмі давяралі агучанай версіі. «Мяркую, за тэрактам стаіць большае зло, чым гэтыя двое», — казаў Яраслаў Пясецкі, што страціў 11 красавіка абедзве нагі.

Мама Кавалёва Любоў шукала любыя магчымасці, каб выратаваць сына. Яна ніколі не скатвалася ў істэрыю, хоць і шмат плакала. Ездзіла ў Брусэль і Страсбург, каб еўрапейскія структуры выступілі супраць смяротнага прысуду. Дапамагала ёй у гэтым праваабаронца Людміла Гразнова.

Потым уласнікі сайтаў «Ежедневник» і tut.by Сяргей Сацук і Юры Зісер паставілі ў дакор, што менавіта палітызацыя справы і прыцягванне «апазіцыі» не ўратавала Улада. Маўляў, калі б сядзелі ціха, тады яшчэ было б магчыма спадзявацца на памілаванне.

Праваабаронцы і кіраўнікі Еўрасаюза заклікалі беларускія ўлады ўстрымацца ад выканання прысуду — каб быў час пазбегнуць судовай памылкі, калі б такая выявілася.

Беларусь засталася адзінай краінай Еўропы, дзе працягваюць выконваць смяротныя прысуды. Далучыўся да кампаніі па ўвядзенні мараторыя і каталіцкі Мітрапаліт Беларусі Тадэвуш Кандрусевіч: Касцёл лічыць, што чалавек не мае права адбіраць жыццё ў другога чалавека, акрамя выпадкаў, калі гэта трэба для захавання другіх жыццяў.

17 сакавіка маці Кавалёва прыйшоў ліст з Вярхоўнага Суда, дзе канцылярскай мовай было напісана, што прысуд прыведзены ў выкананне.

У той жа дзень у Мінску і Віцебску прайшлі стыхійныя акцыі супраць адмены смяротнага пакарання. Да шыльды ў памяць ахвяр неслі свечкі і кветкі. Міліцыя глядзела на гэта ўсё з недаверам. Дамоў да Кавалёвых прыходзілі людзі, якія ўтварылі жывы ланцуг ад другога да пятага паверха. Мама Кавалёва абняла кожнага з іх.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Стыхійныя акцыі за адмену смяротнага пакарання прайшлі ў Мінску і Віцебску.

Любоў Кавалёва кажа, што будзе далей дабівацца асабістай сустрэчы з Лукашэнкам. «Я ні перад чым не спынюся, мне губляць ужо няма чаго», — кажа яна.

«Часамі расследаванне доўжыцца гадамі, а ў нас раз-два», — сказаў пасля выканання прысуду апостальскі візітатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа Аляксандр Надсан. «Ад іх смерці мала каму стала лягчэй, хутчэй наадварот — адчуванне дзікасці», — напісаў у твітары нападаючы зборнай Беларусі па футболе Віталь Радзівонаў.

Паводле апытанняў НІСЭПД, больш за 50% беларусаў не давяраюць прысуду. Цана ж памылкі тут вельмі вялікая.

**Зміцер Панкавец**



## «Суд, як царква: хтосьці верыць, а хтосьці — не»

Журналіст **Алег Груздзіловіч** напісаў кнігу «Хто ўзарваў мінскае метро?»

Алег Груздзіловіч прысутнічаў на ўсіх пасяджэннях па справе Дзмітрыя Канавалава і Улада Кавалёва. Цяпер на сайце радыё «Свабода» штодня выходзяць раздзелы ягонай кнігі «Хто ўзарваў мінскае метро?»

**Алег Груздзіловіч:** Працэс быў цікавым, гучным. Ён закончыўся, а людзі ўсё адно не вераць. Сябры не вераць, дзеці не вераць. Вось і даводзілася ім на пальцах тлумачыць, што там было. Самому аналізаваць, чуць меркаванні іншых людзей.

**«Наша Ніва»: Пытанняў справа пакінула шмат?**

**АГ:** Дастаткова. Нестыкоўкі былі нават у галоўных доказах віны, як відэа. Здавалася б, там усё відавочна. Вось чалавек з сумкай, потым яе пакідае, нешта націскае ў кішэні, гучыць выбух. Размаўляеш потым з судэкспертам і бачыш, што тут нешта наклалі, там выразалі тры секунды. На працэсе пракурор разбіраў відэа з метро, а вось зрабіць гэта адвакату адмовілі. Чаму? На гэтае відэа часта спасылаюцца сваякі ахвяр, простыя людзі. Маўляў, там усё відаць. А на справе ж пытанні застаюцца.

**«НН»: А што яшчэ?**

**АГ:** Загадкавым застаецца пытанне, ці мог сам Канавалаў стварыць такую бомбу. Мне літаральна сёння [20 сакавіка — «НН»] тэлефанаваў навуковец-хімік, які пераконваў, што зрабіць з салетры такое прыстасаванне проста немагчыма. А вось тэрарыст яшчэ савецкай загартоўкі Ханжанкоў[атрымаў 10 гадоў за спробу ўзарваць мінскую «радыёглушылку» ў 1960-я — «НН»] пераконвае, што ў свой час бомбы яны рабілі якраз на базе салетры. Тады яе немагчыма было знайсці ў магазінах, а вось на палях яе былі поўныя мяхі. Розныя меркаванні.

**«НН»: А Вы даяце адказ на пытанне, хто ўсё ж узарваў метро?**

**АГ:** Пакуль гэта немагчыма. У пэўным сэнсе суд, як царква: нехта верыць, а нехта — не.

**«НН»: Дык хаця б адказ на пытанне, ці мелі Кавалёў з Канавалавым дачыненне да выбуху можна даць?**

**АГ:** Мелі. Відавочна, без іх не абышлося. Хаця роля Кавалёва менш пэўная.

**«НН»: Кропка ў справе пастаўленая пасля расстрэлу хлопцаў?**

**АГ:** З афіцыйнага боку — так. Калі прагучыць новы выбух, то тады ні пра якую кропку гаварыць не выпадае. Калі ў 2005 у Віцебску прагучаў першы выбух, то мы паставіліся неяк з недаверам, думалі, бандыты. У 2008-м было больш сур'ёзна, але без ахвяр. У выніку гэта ўсё вылілася ў 11 красавіка 2011.

**«НН»: Якое Вашае стаўленне да выканання прысуду?**

**АГ:** Нават калі пагадзіцца з судом, то роля Кавалёва застаецца другаснай ці нават трэцяраднай. На допытах Кавалёў казаў, што спрабаваў адгаварыць Канавалава ісці. Казаў: «Можа, не пойдзеш?» Ён відавочна не заслугоўваў смяротнага пакарання. Можна было чакаць даўжэй, не прыводзіць у выкананне гэты прысуд. Хаця, магчыма, зрабілася гэта для таго, каб прадэманстраваць наш асаблівы шлях.

**Гутарыў ЗП**

# У Маскве Лукашэнка трывожна кусаў губы

Адносіны Беларусі і ЕС наблізіліся **да небяспечнай рысы**.

Еўрасаюз гатовы быў пашырыць санкцыі супраць лукашэнкаўскіх чыноўнікаў і бізнесменаў. Рашэнне анансуецца на 23 сакавіка.

На мінулым тыдні Еўрапарламент мусіў прыняць рэзкую рэзалюцыю па Беларусі. У тэксце гаварылася пра эканамічныя санкцыі і заклік да адмены Чэмпіяната свету па хакеі ў Мінску. Вядома, заявы Еўрапарламента маюць хутчэй сімвалічнае значэнне, але яны таксама ўплываюць на далейшыя рашэнні.

Дык вось, рэзалюцыю не прынялі. Балгарскі дэпутат Крысціян Вігенін прапанаваў адкласці яе, каб даць магчымасць Беларусі выправіць сітуацыю. «Мы атрымалі інфармацыю пра станоўчыя зрухі», — сказаў Вігенін.

### Паслы вернуцца?

Іншы пазітыўны сігнал быў дасланы з Брусэля вуснамі Кэтрын Эштан. Кіраўнічка замежнай палітыкі ЕС заклікала паслоў вярнуцца ў Мінск на працягу тыдня. Тым самым яна паказала, што Еўропа не зацікаўленая ў паглыбленні канфлікту.

«Аб якім вяртанні еўрапейскіх паслоў сёння можа ісці гаворка, калі Еўрасаюз не стамляецца пагражаць нам увядзеннем новых санкцый 23 сакавіка? Давайце

**Еўропа усяляк паказвае, што не хоча канфлікту »**

спачатку дачакаемся гэтай даты, а ўжо потым мы будзем вызначацца, у тым ліку і адносна вяртання паслоў», — такая пазіцыя беларускага МЗС.

З гэтай нагоды нават анекдот з'явіўся. Паслы ЕС вернуцца ў Мінску толькі пры выкананні аднаго патрабавання: каб іх пусцілі.

### Спіс заложнікаў

Пусцяць назад у свае рэзідэнцыі паслоў ці не, пакуль не вядома, а вось канстытуцыйнае права беларускіх грамадзянаў аб свабодзе перамяшчэння парушаецца. Ужо з дзясятак палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў не змаглі выехаць з Беларусі.

Іх здымаюць на мяжы з рэкамендацыяй звярнуцца ў Аддзел па грамадзянству і міграцыі МУС па месцы жыхарства. Афіцыйныя прычыны гучаць даволі смешна. Кагосьці не пусцілі за мяжу за «няяўку ў ваенкамат». Супраць старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў нібыта пачатая справа аб яе банкруцтве. А Анатоль Лябедзька «ўхіляецца ад абавязкаў, накладзеных на яго судом». «Створаны спіс заложнікаў», — рэзюмуе Андрэй Дынько, шэф-рэдактар «Нашай Нівы», які таксама апынуўся ў спісе невыязных.



Аляксандр Лукашэнка на перамовах у Маскве 19 сакавіка.

### Ад лабістаў не адбіцца

Ёсць імавернасць, калі санкцыі будуць прынятыя, то яны могуць зачапіць людзей, якія скалацілі за апошнія гады капітал. Гэта ўладальнік «Трайпла», бярозаўскіх заводаў і мінскага «Дынама» Юрый Чыж, кіраўнік «Санта-Імпэкс Брэст» і «Савушкавага прадукту» Аляксандр Машэнскі, старшыня «Амкадора» Аляксандр Шакуцін, кіраўнік «Тытунь-Інвеста» і ўладальніка сеткі гіпермаркетаў «Карона» Павел Тапузідзіс.

Па неафіцыйнай інфармацыі, беларускія ўлады паставілі замежных бізнесменаў перад фактам, што ў выпадку санкцый супраць беларускіх калег яны могуць згарнуць свой бізнэс у нашай краіне. Шэраг літоўскіх палітыкаў, што маюць бізнэс у Беларусі, цяпер рашуча выступаюць супраць новых санкцый. Падобныя настроі ёсць у Латвіі і Славеніі.

«Вы не паверыце, колькі чалавек змагло сюды прабіцца», — напісала брусэльскае выданне Euobserver аб лабістах беларускіх бізнесменаў, якія дабіваюцца неўключэння ў спіс неўязных у ЕС.

Да эканамічных санкцый нядаўна заклікаў экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус. «Пераканаўча прашу вас праявіць мудрасць, цвёрдасць і рашучасць, каб дапамагчы выратаваць краіну ад далейшага падзення», — напісаў Ус да Кэтрын Эштан.

### Прашэнне Саннікава «разглядаецца»

Вядома, што крокам добрай волі з боку Мінска магло б стаць вызваленне палітвязняў. Tut.by надрукаваў «злію» з Адміністрацыі прэзідэнта, у якім гаворыцца, што прашэнне аб памілаванні Саннікава і Бандарэнкі ўсё яшчэ разглядаецца. Маўляў, была інфармацыя аб тым, што выбівалася падпіска сілай.

Такую інфармацыю можна трактаваць як нейкую «нажыўку», на якую хочуць злавіць еўрапейцаў. Нічога канкрэтнага не зроблена, але намёкі шматабяцальныя.

Адзіным пакуль «пазітыўным сігналам» служыць хіба дазвол шэсця на Дзень Волі ад Акадэміі навук да Бангалор. Летась не дазволілі і гэтага. Цяпер жа дэманструюць, што гатовыя да мірнага шэсця, без разгону і затрыманняў.

### Адклалі на 2015

Лукашэнка ж у чарговы раз наведаў Маскву, дзе праходзіла пасяджэнне Міждзяржаўнай рады Еўразійскай эканамічнай супольнасці. Бакам так і не ўдалося дамовіцца аб падпісанні Еўразійскага саюза, які вырашылі адкласці на 2015 год.

Зноў выявіліся дробныя супярэчнасці ў пазіцыі Масквы і Мінска па рэарганізацыі ЕўрАзЭС. Не ўдаецца Крамлю завабіць у Еўразійскі саюз і Украіну, нягледзячы на высокія цэны на газ і еўрапейскі крызіс.

### «Можа, падышах памрэ, а можа, асёл здохне»

Што будзе азначаць для дзяржаўнасці, эканомікі, культуры Беларусі далейшая эскалацыя з Еўрасаюзам? Мы папрасілі пракаментаваць гэта аналітыка Аляксандра Класкоўскага.

«Нічога добрага. Адзінае выйсце для Лукашэнкі застаецца ісці на ўсход, у пастку еўразійскай інтэграцыі. На Захадзе гараць масты, якія падпаліў сам беларускі кіраўнік. Масква ж будзе настойліва патрабаваць ад Беларусі новых прадпрыемстваў і адзінай валюты».

**Зміцер Панкавец**

# Райнер Лінднер: Пытанні рашаюцца

Старшыня Беларуска-нямецкага таварыства, палітолаг Райнер Лінднер на мінулым тыдні наведаў Мінск. Сярод іншага, ён меў сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства замежных справаў і Адміністрацыі прэзідэнта.

Райнер Лінднер доўгі час быў натхняльнікам беларуска-нямецкага «Мінскага форуму». Не адбылося мерапрыемства толькі летась. Арганізатары палічылі, што ў той час, калі ў турмах знаходзяцца палітвязні, форум немагчымы.

**Райнер Лінднер:** Апошні раз да гэтага я быў у Мінску год таму. Фармальнай прычынай для прыезду стаўся круглы стол на тэму «Сямейнае прадпрымальніцтва», на якім прысутнічала больш за 70 чалавек. Сустракаўся з самымі рознымі людзьмі, як з урада, так і грамадскай супольнасці. Мне было цікава ведаць настроі палітычных партый, меркаванні пра адносіны з Еўрасаюзам.

**«Наша Ніва»: Пра што Вы размаўлялі з прадстаўнікамі ўрада?**

**Р.Л:** Выказаў занепакоенасць станам рэчаў паміж ЕС і Беларуссю, наяўнасцю палітвязняў, а таксама ўмовамі іх утрымання. Гаварылі пра магчымасць эканамічнага супрацоўніцтва малога і сярэдняга бізнэсу. Я спрабаваў абмеркаваць магчымасць хуткага рашэння праблемаў. Для гэтага неабходна вызваленне палітвязняў.

**«НН»: Вашы прапановы пачулі?**

**Р.Л:** Скажам так, іх прынялі з разуменнем. Сёння я не магу казаць пра тое, ці абяцалі мне штосьці. Пытанні цяпер рашаюцца.

**«НН»: Вы ўбачылі ў беларускага боку жаданне спыніць сённяшнюю канфрантацыю?**

**Р.Л:** Мне здаецца, што ніхто не зацікаўлены ў абвастрэнні крызісу ва ўзаемадачыненнях. Але няма канкрэтных інструментаў, як выйсці. Ніхто не хоча рабіць першы крок. Утварылася пікавая сітуацыя. Трэба сумесна выйсці з гэтага становішча, інакш нас чакае замарожаны канфлікт.

**Гутарыў ЗП**

# Беларусаў стымулююць да пазнейшага выхаду на пенсію

Але выгаду **не прадкажаш**.

Аляксандр Лукашэнка аб'явіў аб пачатку мяккай пенсійнай рэформы, аднак не рашыўся павялічыць пенсійны ўзрост. Беларусаў папросяць папрацаваць на некалькі гадоў больш, а ўзамен абяцаюць павялічаную дапамогу пазней.

Указам №136 прадугледжваецца, што пры адтэрміноўцы пенсіі яе пазнейшы памер павялічыцца:

за адзін год – на 6% заробку, прыманага для вылічэння пенсіі;

за два гады — 14% (8% за другі год працы+ 6% за першы год);

за тры гады — 24% (10% за трэці + 14% за два папярэднія);

за чатыры гады — 36% (12% за чацвёрты + 24% за тры папярэднія);

за пяць гадоў — 50% (14% за пяты + 36% за чатыры папярэднія);

за шэсць гадоў і г.д. — дадаецца 14% да значэння папярэдняга года.

Прэс-служба кіраўніка дзяржавы прыводзіць прыклад, што жанчыне з 37-гадовым стажам, якая магла б атрымаць пенсію ў 1,4 мільёна рублёў, але працягнула працаваць, дзяржава праз пяць гадоў будзе плаціць па 2,4 мільёна рублёў штомесяц. «Даплата» будзе складаць $150 штомесяц да канца жыцця.

Ці выгадна гэта для пенсіянеркі? Калі б жанчына ўсё ж афоміла сабе пенсію, за пяць гадоў яна магла б атрымаць 84 мільёны рублёў. Фактычна, выгаду не прадкажаш: яна залежыць ад таго, колькі чалавек пражыве.

**Ягор Марціновіч**

**Сярэдняя працягласць жыцця:**

| | |
|---|---|
| Японія | 82,1 |
| Германія | 79 |
| ЗША | 78,1 |
| Польшча | 76,7 |
| Літва | 73,4 |
| **Беларусь** | **70,6** |
| Расія | 70,3 |

# Як уводзяць у зман дробных акцыянераў?

**Ні «Нафтан», ні «Гродна Азот», ні «Савушкаў прадукт» не плацяць ні рубля дывідэндаў.**

Тысячы беларусаў маюць ва ўласнасці акцыі прадпрыемстваў. Хтосьці атрымаў некалькі акцый падчас прыватызацыі завода ці фабрыкі, камусьці яны дасталіся ў спадчыну ад бацькоў-рабочых. Але выплаты па дывідэндах мала хто атрымлівае.

### Альтэрнатыва для Скідаля

У эфіры АНТ было расказана пра сумны лёс акцыянераў паспяховага «Агракамбіната Скідальскі». Сярод іх налічваецца 5620 фізічных асобаў, большасць з іх — пенсіянеры. Прыбытак прадпрыемства (за вылікам падаткаў, збораў, выдаткаў і плацяжоў) за 2010 і тры кварталы 2011 склаў 93 мільярды рублёў. Калі падзяліць на колькасць акцый, то за кожную за два гады можна было б атрымаць 2,39 мільёна рублёў! Вядома ж, раздаваць увесь прыбытак неперспектыўна, але пенсіянеры ўвогуле не атрымалі ні рубля.

Аказалася, што на адным са сходаў было вырашана накіроўваць увесь прыбытак на развіццё філіяў агракамбіната. За пенсіянераў рашэнне прымалі іх «даверыаныя асобы» — старшыні калгасаў.

Пасля таго як сотні пенсіянераў сабраліся пратэставаць, чаргова сход акцыянераў вырашыў, што на дывідэнды будзе выдаткоўвацца 6% ад прыбытку. Тым, каму гэтага падалося мала, прапанавалі дзве альтэрнатывы: простую і складаную. Альбо прадаць свае акцыі па намінальным кошце — усяго 110 тысяч рублёў за кожную, альбо выходзіць на біржу, што для вясковых пенсіянераў маладаступна.

### Савушкавы акцыі

Падобная сітуацыя, калі ўвесь прыбытак вырашаецца трацiць на развіццё прадпрыемства, сустракаецца ў Беларусі паўсюль. Замест пенсіянераў-акцыянераў, якія хацелі б атрымліваць сваю долю прыбытку жывымі грашыма, рашэнні прымаюць альбо іх «даверыаныя асобы», альбо кампаніі, якія з'яўляюцца буйнымі акцыянерамі.

«У сярэдзіне 1990-х я абмяняў прыватызацыйныя чэкі на акцыі «Савушкавага прадукту». Атрымалася 50 акцый. З іх якія-ніякія, але дывідэнды выплачваліся, — расказвае Васіль Д. з Брэста. — А за апошнія чатыры гады на рахунак не налічылі ні рубля. Я запытаўся, куды ідуць грошы. Аказалася, усё траціць «на развіццё прадпрыемства».

За тры кварталы 2011 прадпрыемства атрымала 64,72 мільярда рублёў чыстага прыбытку — і таксама не выплаціла ніводнаму з 2000 акцыянераў ні рубля. Калі б пусціць на дывідэнды ўвесь прыбытак, на кожную акцыю выйшла б па 65 тысяч рублёў.

Але 75% акцый прадпрыемства валодае мільянер Аляксандр Машэнскі, уладальнік «Санта-Брэмара». Гэтай долі хапае, каб фактычна адзінагалосна вырашаць, колькі працэнтаў выдаткоўваць на развіццё, а колькі раздаваць акцыянерам. Схема цалкам законная, але яна не ўлічвае інтарэсы мінарытарных акцыянераў. Адзінае выйсце з непрыемнай сітуацыі для іх — абіраць іншую даверыаную асобу, якая будзе лабіраваць іх пазіцыю на сходах.

Падобнымі прынцыпамі карыстаюцца ў сваёй працы і многія іншыя прадпрыемствы, напрыклад, «Нафтан» ці БАТЭ. У некаторых з іх колькасць акцыянераў штогод скарачаецца — людзі не бачаць аддачы ад свайго статуса і прадаюць сваю долю, нават і па заніжаным намінальным кошце.

«Цяпер я напісаў заяву на рэалізацыю сваіх акцый, — прызнаецца Васіль Д. — Сказалі, што кошт кожнай складае ўсяго каля 100 тысяч рублёў».

**Ягор Марціновіч**

# Даўгавая яма

**Беларусь за 2012 год павінна выплаціць $18,9 мільярда доўгу.**

Прывід Грэцыі паўстаў у вачах тых эканамістаў, якія пабачылі гэтыя лічбы: Нацбанк ацэньвае выплаты на абслугоўванне валавога замежнага доўгу ў 2012 ў суму $18,9 мільярда. Гэта 35% ад ВУП краіны і 38% ад сумы гадавога экспарту.

З іх дзяржава сплаціць $1,78 мільярда, астатняе — прадпрыемствы і банкі. Праўда, многія з пазыкаў узятыя пад дзяржаўныя гарантыі. Калі ў прадпрыемстваў не будзе сродкаў, каб іх вярнуць, давядзецца браць грошы з бюджэту.

У 2011 годзе краіна выплаціла $6,3 мільярда на абслугоўванне замежнага доўгу — і гэта прывяло да дзвюх абвальных дэвальвацый. Тады гэта складала 11,6% ад ВУП.

Нават само параўнанне гэтых лічбаў паказвае, што 2012 будзе годам заціснутых пасаў. Ураду прыйдзецца прадаць долю ў «Беларуськаліі» і атрымаць такім чынам сродкі для «выкупнога» за крэдыты суб'ектаў гаспадарання або весці цяжкія перамовы аб рэструктурызацыі, пераносе выплат. Інакш многія запазычаныя прадпрыемствы і банкі збанкрутуюць.

**Беларусі трэба выплаціць утрая больш, чым летась**

Разам з тым, эканамісты не думаюць, што сітуацыя аўтаматычна прывядзе краіну да дэфолту.

Эксперт Беларускага эканамічнага даследчаадукацыйнага цэнтра Зміцер Крук тлумачыць, што $18,9 мільярда — гэта грошы, якія б беларускія арганізацыі мусілі сплаціць, калі б вярталі ўсе кароткатэрміновыя плацяжы. «Але такое ніколі не здараецца, бо частка крэдытаў будзе рэфінансаваная», — мяркуе ён.

Падобнага меркавання прытрымліваецца і эканаміст Дзмітрый Івановіч. «У дадзеным выпадку лічаць увесь кароткатэрміновы замежны доўг плюс працэнтныя плацяжы. Праблемы могуць узнікнуць, калі не будзе продажу акцыяў на $2,5 мільярда і калі сальда замежнага гандлю не будзе такім, як у пачатку года», — прагназуе ён.

**ЯМ, СГ**

# Якія кітайскія аўто будуць збіраць у Беларусі?

**Інвестыцыйная дамова заключана з кампаніяй Geely.**



Красовер Geely MK Cross каштуе ад $12 тысяч.

У снежні 2010 віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка заявіў, што ў Барысаве будзе адкрыты зборачны цэх кітайскіх аўтамабіляў Lifan. Як аказалася, чыноўнік памыліўся. Амбасадар Кітая ў Беларусі Гун Цзяньвэй расказаў, што інвестыцыйная дамова заключаная з іншай кампаніяй, Geely (вымаўляецца «Джылі» або «Цзылі»).

Што ўяўляе з сябе канцэрн «Джылі»? Кітайцы пачалі выпускаць аўтамабілі ў 1998, аднак заваяваць сусветны рынак сваімі машынамі пакуль не здолелі. Напрыклад, залетась было прададзена 415 тысяч аўто, з іх толькі 55 тысяч за межамі Кітая.



Самая папулярная мадэль канцэрна — Geely Panda.

Кошт аўтамабіляў Geely ў Расіі і ва Украіне параўнальны з «Ладамі», «Запарожцамі» і румынскімі «Дачыямі». Напрыклад маалітражны (1,5 л) Geely MK з магутнасцю 94 конскія сілы каштуе ад $11 000, а красовер Geely MK Cross з такімі ж характарыстыкамі — $12 000.

Пакуль што сярод беларусаў «Джылі» папулярнасцю не карыстаецца. Летась у краіну былі увезены толькі 291 аўтамабіль гэтай маркі.

**ЯМ**

# У Нарачы выпусцяць сыр з цвіллю

**А ў канцы года з'явіцца і мяккі сыр мацарэла.**

Нарачанскі масласырзавод (філіял Маладзечанскага малочнага камбіната) запусціў вытворчасць блакітнага сыру «Ракфорці» з цвіллю. Сыр даспявае 60 дзён, таму першая партыя з'явіцца ў продажы ў канцы красавіка.

Раней Беларусь штогод закуплялала да 150 тон сыру з цвіллю. Зараз замежную прадукцыю пастараюцца замяніць сваёй. Пакуль што за суткі будзе вырабляцца тона сыру з цвіллю. Яго надта цэняць гурманы. Яго ядуць на дэсерт, пад ім таксама запякаюць рыбу.

У канцы года маладзечанскае прадпрыемства плануе запусціць лінію па вытворчасці мяккага сыру мацарэла. Ён таксама карыстаецца попытам.

**Паводле БелТА**

## Сцісла

### «Нафтан» прададуць?

Віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка прызнаў, што Беларусь гатовая прадаць кантрольны пакет акцый наваполацкага нафтаперапрацоўчага прадпрыемства стратэгічнаму інвестару. Ён таксама пацвердзіў, што Беларусь мае выканаць абавязак перад Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС і прыватызаваць прадпрыемстваў як мінімум на 2,5 млрд даляраў у 2012.

### Паліва падаражэла на 5%

«Белнафтахім» у першы раз за год павялічыў адпускныя цэны на аўтамабільнае паліва. Летась было дзесяць падаражанняў. Цяпер літр бензіну АІ-92 каштуе 6000 рублёў, літр дызпаліва — 6600 рублёў. Акцыяў «Стоп-бензін» пасля падаражанняў не праводзілася.

### Цукар — 7500

Ад 14 сакавіка падаражэў і цукар. Кошт кілаграма склаў 7500 рублёў замест ранейшых 7000 рублёў. Цана вырасла на 7,1%. Гэта першае падаражанне цукру за год.

### Беларусы атрымалі з-за мяжы $257 мільёнаў

Замежных грашовых пераводаў стала больш на 6%. Па-ранейшаму найбольш грошай прыходзіць з Расіі — $147 мільёнаў (57%). На наступных месцах Францыя (7%), Латвія і ЗША (па 5%).

**ЯМ**

# Плата за паліклініку?

У Канадзе медыцына дзяржаўная і бясплатная, але сістэма **збудавана іначай**.

У пачатку сакавіка віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік на калегіі Мінаховы здароўя прапанаваў увесці сімвалічную плату за наведванне паліклінікі. На яго думку, плата 5000 рублёў за прыём дапаможа скараціць чэргі. Чыноўнік падкрэсліў, што беларусы ўдвая часцей наведваюць паліклінікі, чым нашы суседзі. У нас сярэднестатыстычны грамадзянін ходзіць у паліклініку аж 13 разоў за год!

Ініцыятыва Тозіка выклікала неадназначную рэакцыю. Адны ідэю падтрымалі — маўляў, у чэргах насамрэч шмат выпадковых людзей. Іншыя нагадваюць, што Канстытуцыя гарантуе бясплатную медыцыну. «Паліклінікі існуюць на нашы падаткі, дык што, мы будзем плаціць двойчы?» — абураюцца яны.

### «Адпраўляць медыкаў за мяжу»

Розгалас ад прапановы пра платны прыём пакінуў у цяні іншыя важныя ініцыятывы, агучаныя на той калегіі. А між іншым віцэ-прэм’ер шмат казаў таксама пра неабходнасць ужывання перадавога досведу ў айчыннай медыцыне.

«Трэба максімум увагі ўдзяліць абмулаторна-паліклінічнаму звяну і ўчастковым дактарам: я маю на ўвазе і іх заробкі, і статус, і ўмовы працы, і працоўныя месцы. Давайце больш інтэнсіўна развіваць інстытут памочніка доктара. У Еўропе даволі актыўна выкарыстоўваецца кансультаванне пацыентаў па тэлефоне. Чаму б нам не запазычыць такую практыку? Тым больш што з гэтай задачай цалкам можа справіцца і сярэдні медыцынскі персанал. Трэба ўзнімаць статус і аўтарытэт сярэдняга медыцынскага персаналу», — цытуе віцэ-прэм’ера «Звязда».

**Платныя медычныя цэнтры забароненыя, каб не было няроўнасці »**

«І не варта баяцца адпраўляць маладых людзей на стажыроўку ці працу за мяжу — у сур’ёзныя кампаніі, клінікі і ўніверсітэты. Мы павінны ўсё карыснае, што ёсць за мяжой, цягнуць у сваю краіну », — дадаў Анатоль Тозік.



Віцэ-прэм’ер Тозік хоча мадэрнізаваць сістэму медыцыны.

### «Медыкі — адны з самых багатых»

Хто можа стаць прыкладам? У ЗША сістэма медыцыны цалкам прыватная, нам гэта пераняць цяжка. А вось у Канадзе ахова здароўя падобная да нашай, фінансуецца дзяржавай. Большасць медыцынскіх паслуг тут бясплатная для ўсіх жыхароў. Заробак медыкі атрымліваюць з бюджэту, і пры гэтым прафесія лекара тут адна з самых высокааплатных.

Пра асаблівасці канадскай медыцыны карэспандэнту «НН» расказала былая супрацоўніца рэдакцыі Віялета Кавалёва, якая эміґравала ў Канаду ў пачатку 2000-х. Яна працуе сакратаром у грамадскім цэнтры здароўя, таму добра ведае асаблівасці сістэмы.



У кожнай канадскай сям’і, як правіла, ёсць свой доктар. Тут добра развіты інстытут участковых тэрапеўтаў. Жыхары атрымліваюць адмысловую картку здароўя. Трапіць на лячэнне ў бальніцу тут немагчыма без накіравання, як і ў Беларусі. Але палікл інік тут амаль няма, а накіраванне выпісвае ваш сямейны доктар. Для гэтага яму тэлефануеш і запісваешся на прыём. Раз на год уладальнікі карткі здароўя маюць права на комплексны, грунтоўны агляд у свайго доктара.

Як знайсці сабе сямейнага доктара? Працуе адмысловы сайт, дзе вы можаце выбраць сабе доктара, зыходзячы з самых розных крытэраў: ад адлегласці ягонага дома да вашага жытла, ад таго, ці размаўляе ён на зразумелых вам мовах і г.д.

### Свае праблемы

У Канадзе дэфіцыт вузкіх спецыялістаў. І патрапіць да такіх дактароў можна, пачакаўшы не адзін тыдзень у чарзе. У Беларусі ў такім выпадку можна пайсці ў платны медцэнтр. У Канадзе ж такіх няма, таму тут час ад часу ўзнікаюць дыскусіі наконт неабходнасці стварэння платных цэнтраў. Праціўнікі такой ідэі кажуць, што гэта можа разбурыць прынцып роўнага доступу да медыцыны незалежна ад узроўню дабрабыту.

**Плата за прыём доктара пярэчыць Канстытуцыі?**

Канстытуцыя Беларусі гарантуе грамадзянам краіны права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных медустановах. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч мяркуе, што выйсцем было б пашырэнне практыкі медыцынскага страхавання, але з захаваннем бясплатнага лекавання неабароненых катэгорый насельніцтва.

Што рабіць, калі ваш сямейны доктар заняты, а вам неабходны тэрміновы медагляд? Вы можаце пайсці ў адмысловую клініку — walk-in clinic. Тут не трэба папярэдняга запісу, вам давядзецца чакаць у агульнай чарзе, а абслугоўваць вас будзе дзяжурны доктар.

### Упор на дыягностыку

У Канадзе надаецца малая ўвага фізіятэрапіі, але пры гэтым на высокім узроўні знаходзіцца дыягностыка. У гэтым мясцовым медыкам дапамагае сучаснае абсталяванне і добрая адукацыя. Прэстыж тутэйшых лекараў надзвычай высокі, як і іх заробак. І тут адсутнічае такая з’ява, як хабарніцтва ці абслугоўванне па знаёмстве.

Было б памылкай казаць, што медыцына ў Канадзе цалкам бясплатная. Паслугі стаматолага тут платныя, як і акуліста па спаўненні пацыенту 18 гадоў. Давядзецца плаціць і за масаж. Аднак і тут ёсць палёгкі: дзяржслужбоўцы і супрацоўнікі буйных карпарацый маюць так званыя бенефіты — зніжкі на платныя медыцынскія паслугі. Вось нядаўна муж Віялеты быў звольнены з буйнога завода і разам з працай страціў бенефіты.

Вялікі заробак для медыкаў — адзіны рэцэпт для павышэння якасці медыцыны і скарачэння чэргаў у паліклініках, перакананая канадская беларуска Віялета Кавалёва.

**Сямён Печанко**

## «Будучыня за страхавой медыцынай»

Землямер з Гродна Аляксандр Базар **дзеліцца вопытам**: супрацоўнікі іх прадпрыемства другі год лечацца за кошт страхоўкі.

Аляксандр Базар працуе ў бюджэтнай арганізацыі. Два гады таму іх калектыў заключыў дамову з «Белдзяржстрахам» наконт аказання медыцынскіх паслуг па страхоўцы. Згодна з дамовай, арганізацыя пералічвае страхавой кампаніі пэўную суму ў разліку на кожнага супрацоўніка арганізацыі.

Як гэта працуе? Вы захацелі абследавацца ці падлячыцца? Тэлефануеце агенту і называеце свой дыягназ. Праз некаторы час той паведамляе вам, што ў адной з бальніц горада ёсць вольнае месца і вам трэба ў вызначаны час быць там. І ніякіх чэргаў у паліклініках да тэрапеўта, ніякіх аналізаў і флюараграфіі. Больш за тое, пацыенты па страхоўцы абслугоўваюцца па-за чаргой і ў самой бальніцы.

Дактары найперш зацікаўленыя ў такіх пацыентах, бо ў бальніцу пералічваюць грошы за кожнага такога кліента.

На абследаванне ў бальніцы выдзяляецца пэўная сума. І калі вы яе за адзін візіт не вычарпалі, можаце разлічваць на дадатковае наведванне лякарні. За гэтыя грошы можна аплаціць больш камфортную палату з тэлевізарам і лядоўняй.

Акрамя таго, уладальнікі страхоўкі раз на год атрымліваюць грашовую кампенсацыю на лекі ці на лячэнне зубоў (па жаданні). Пры гэтым неабходна пераслаць у страхавую кампанію рэцэпт з пячаткай і чэк з аптэкі.

Калі сур’ёзных праблем са здароўем у вас няма, можна патраціць сваю страхоўку на масаж ды іншыя прафілактычныя працэдуры.

«У свой час страхавы агент пераканаў нас, што будучыня за страхавой медыцынай. І прапанаваў нам разам вучыцца жыць па-новаму». За два гады, адзначае наш чытач, якасць і асартымент паслуг істотна выраслі. Па словах гродзенскіх медыкаў, падобную практыку пачалі прымяняць многія іншыя бюджэтныя арганізацыі горада.

**СП**

**Апытанне**

## Ці трэба ўвесці плату за наведванне паліклінікі?

Апытанне **на вуліцах сталіцы**.

*Як Вы ставіцеся да таго, што збіраюцца ўвесці плату 5 тысяч за наведванне паліклінікі?*



Я супраць. Гэтыя грошы не пойдуць на карысць медыцыне, а асядуць у кішэнях у чыноўнікаў.



Напэўна, будзе лепш, калі будзем плаціць. Лепш будуць да нас ставіцца дактары.



Не чула пра гэта. Нават не ўяўляю, з чым гэта звязана. А Бог яго ведае, як яно лепш. Людзі хварэюць, і чэргі будуць усё роўна. Не з нашымі пенсіямі такое ўводзіць



Нармальна. Можа, менш будуць хадзіць, што не хварэюць. А то ходзяць бабкі, каб пагаварыць з кім-небудзь. А хворыя людзі гадзінамі сядзяць у чэргах.



Стаўлюся вельмі дрэнна. Я пенсіянерка і не магу плаціць за кожнае наведванне 5 тысяч.



Стаўлюся адмоўна, канечне.



Мне ўсё роўна. Што, 5 тысяч — вялікі грошы? Я б нават плаціў, каб там не было чаргі.



Калі ў людзей забіраюць грошы, ці ж гэта добра? У нас заўсёды было бясплатнае лячэнне і раптам увядуць плату — нічога цікавага ў гэтым няма.



Адмоўна. У нас бясплатнае лячэнне. Нельга быць «крыху цяжарным». Ці бясплатна павінна быць, ці тады ўжо ўсё платна. Гэта не разумна.



Хранова. І так падаткі плоцім. Чэргі будуць і так, і так. Бабулькі заседжваюцца па жэсці.



Я доктар з 40-гадовым стажам. Зараз ідзе камерцыялізацыя, таму тут здзіўляцца няма чаму. Што плацяць урачам — гэта мізер. Таму і хочуць гэтыя праблемы вырашыць. Гэта ж праблемы: участковых тэрапеўтаў няма, вузкіх спецыялістаў не хапае. Так што маё стаўленне неадназначнае.



Станоўча. Я большую частку жыцця выбірала платную медыцыну. Калі аналаг з’явіцца ў дзяржаўных клініках, напэўна, гэта палегчыць жыццё.



Калі 5 тысяч — гэта яшчэ нічога. Але ж вы самі ведаеце, з кожным момантам будзе павялічвацца.

**Аксана Рудовіч, Таццяна Гаўрыльчык**

# На кропельніцы

**Сяргей Каваленка** працягвае галадоўку на мяжы жыцця і смерці.

19 сакавіка жонка палітвязня Сяргея Каваленкі Алена сустракалася з начальнікам мінскай турмы на Валадарскага. Ён паведаміў, што Сяргей знаходзіцца ў Рэспубліканскім турэмным шпіталі. І яго не збіраюцца пакуль пераводзіць у цывільную бальніцу. Па словах начальніка, няма падстаў і для пераводу Каваленкі ў псіхіятрычную лякарню. На мінулым тыдні Алена Каваленка атрымала ліст з Дэпартамента выканання пакаранняў МУС, у якім паведамлялася, што мужа абследаваў псіхіятр і ў яго нібыта вызначана страта адэкватнага псіхічнага стану — мужчына будзе пераведзены ў «Навінкі».

Начальнік турмы сказаў Алене, што муж не адмовіўся ад галадоўкі. А кропельніцы, якія яму ставяць, неабходныя толькі для падтрымкі працы ўнутраных органаў.

Сяргея Каваленку асудзілі на два гады і адзін месяц за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання. Да гэтага прысуду ён быў пакараны трыма гадамі абмежавання свабоды без накіравання ў месца адбыцця пакарання пасля вывешвання бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй яліне 7 студзеня 2010 у Віцебску. Пасля затрымання 19 снежня 2011 актывіст абвясціў галадоўку, якую трымаў 30 дзён. Пасля яго пачалі карміць прымусова. Непрацяглы час ён еў сам. Калі 21 лютага пачаўся суд, Сяргей паведаміў, што пачаў зноў галадаць. Галадоўку трымае да сёння.

**КМ**



Сяргей Каваленка цвёрды ў сваіх перакананнях.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Мы маем справу з сімвалічным учынкам, з подзвігам.** Таму тут пытанне: што ёсць «выратаваць»? Словы тут не дапамогуць. Я б не знайшоў словаў для таго, каб пераканаць Сяргея Каваленку спыніць галадоўку, бо цалкам падзяляю сэнс ягонага ўчынку ў барацьбе з антыбеларускім рэжымам. Ідзе схаваная вайна, у якой я адназначна на тым баку, што і Сяргей. Адзінае, што я мог бы зрабіць — гэта замяніць яго на ягоным месцы. Я да гэтага гатовы. Думаю, у Беларусі шмат тых, хто мог бы замяніць яго. Сяргей Каваленка — такі ж герой беларускай нацыі, як, напрыклад, Кастусь Каліноўскі», — у інтэрв'ю радыё «Свабода» выказаўся Сяргей Дубавец, які ў 1996 пераканаў спыніць сухую галадоўку пратэсту паэта Славаміра Адамовіча.

**«Каваленка — мой паслядоўнік. Я хачу, каб ён жыў»**

Алесь Яжэвіч з Чэрвеньскага раёна прапануе памяняцца месцамі з палітвязнем.

«Калі за сцяг і за веру канае ў турме патрыёт Сяргей Каваленка, я не магу маўчаць. Смерць сцяганосца ляжа цяжкім грахом на кожнага з нас, хто не зрокся Радзімы, а значыць — і на мяне. Я на добрых 20 год раней за Каваленку вывешваў бел-чырвона-белыя сцягі. Пасадзіце мяне замест Каваленкі», — кажа Аляксандр Яжэвіч з вёскі Заполле (Чэрвеньскі раён).

«Каваленка разумна робіць, што галадае, але рэсурс не бясконцы. Ягоная вага ў 50 кілаграмаў пры росце 182 — лішняе сведчанне, што яму засталося няшмат. Я хачу, каб ён жыў. Такія людзі патрэбныя Беларусі, каб краіна захавала незалежнасць», — лічыць грамадзянін.

Сяргея Каваленку Алесь Яжэвіч называе сваім паслядоўнікам, бо сам Яжэвіч у 1980-я вывешваў сцягі.

«У Валожыне вывесіў бел-чырвона-белы штандар над будынкам райвыканкама. У тагачаснага мэра горада ногі сталі падкашвацца, калі ён тое пабачыў. Гатовы расказаць пра ўсе іншыя выпадкі, калі мяне памяняюць месцамі з Сяргеем Каваленкам», — кажа А.Яжэвіч.

**ЗП**

# Казулін: «Я не збіраўся прымаць памілаванне»




PHOTO.BYMEDIA.NET

Экс-кандыдат у прэзідэнты **Аляксандр Казулін** расказвае, як у свой час выпускалі яго.

Палітык правёў 2 гады і 5 пяць месяцаў за кратамі за «хуліганства» — за ўдзел у шэсці да ізалятара на Акрэсціна 25 сакавіка 2006.

**«Наша Ніва»: Калонія «Віцьба-3», у якой Вы сядзелі і дзе цяпер знаходзіцца Андрэй Саннікаў, вылучаецца асаблівымі ўмовамі для палітвязняў?**

**Аляксандр Казулін:** Да палітвязняў заўсёды асаблівае стаўленне. Турма — такое месца, дзе нічога не схаваеш, бо там усё залежыць ад таго, як ты сам сябе паводзіш.

**«НН»: Тады, у 2006—2008, адміністрацыя калоніі карысталася такімі метадамі, як шантаж, перавод у камеру да асуджанага з нізкім статусам?**

**АК:** За той час, калі я там быў, людзі, якія маглі са мной сябраваць, высылаліся ў іншыя калоніі альбо іх садзілі ў ШІЗА. І такіх выпадкаў было дастаткова. У адміністрацыі ёсць розныя метады ўздзеяння на псіхалогію. Больш за тое, там існуе цэлая група, якая аналізуе псіхалагічны стан і адносіны да тых ці іншых асобаў. Таму падыходы вельмі сур'ёзныя. І гэта меры, якія сыходзяць з асаблівасцяў характару асобы, на якую збіраюцца ўздзейнічаць.

**«НН»: Ад сённяшніх палітвязняў патрабуюць падпісаць прашэнні аб памілаванні. Ад Вас патрабавалі?**

**АК:** Было шмат патрабаванняў. Але там усе добра разумелі, што гэтага не атрымаецца. А на выпадак, калі будзе выдадзены ўказ аб маім памілаванні, я падрыхтаваў жорсткі ліст. Да адміністрацыі і таму, хто мог бы падпісаць такі ўказ. Бо я не збіраўся прымаць памілаванне.

**«НН»: Адправілі тады ліст?**

**АК:** Не. Уся справа ў тым, што калі я выходзіў, то лічыў, што толькі на павахаванне майго цесця. Як тое было і з пахаваннем маёй жонкі [А. Казуліна адпускалі на 3 дні з калоніі для развітання з жонкай у лютым 2008]. І для мяне стала нечаканым, што я выйшаў назусім. Бо мне сказалі збірацца не з усімі рэчамі. А гэта азначае, што ты выходзіш на некаторы час.

**«НН»: Як мяркуеце, Лукашэнку падпісаныя вязнямі прашэнні аб памілаванні прынясуць нейкае маральнае задавальненне, ці гэта трэба для таго, каб паказаць зламанасць вязняў?**

**АК:** Трэба ведаць псіхалагічны стан характару той асобы, якая гэта патрабуе. Гэта і тое, і другое.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Слова «звер» не ўжываць»

**Статкевіч патэлефанаваў** жонцы і бацьку.

«Радасна было, што голас у яго не памяняўся. Такі самы бадзёры, вясёлы, — адзначыла жонка палітыка Марына Адамовіч. — Як заўсёды, кажа, што ўсё нармальна. Шмат чытае і займаецца спортам. Прэса ў Магілёў лепш даходзіць, чым у Шклоў».

Адначасова палітвязень паведаміў жонцы, што лістоў ад людзей яму прапускаюць мала, зрэдку даходзяць толькі тэлеграмы або пустыя канверты. Пры гэтым цэнзар пазначыў Статкевічу параду, каб ягоная жонка «не ўжывала такія цынічныя словы», як «звер», «жабкі», «смоўж», інача́й яе лісты не будуць даходзіць да адрасата». Марына Адамовіч не тлумачыць, каго яна называе так.

Тэлефанаванне доўжылася некалькі хвілін.

У сваім апошнім лісце Статкевіч выказаў занепакоенасць лёсам краіны. «...Гэты дзіцячы шантаж кшталту — «прымайце нас такімі, якія мы ёсць, і дапамагайце, а то мы здамо краіну» — ужо не працуе. І перспектыва абсалютна ясная — альбо мяняцца, альбо здача. Урэшце, усё будзе залежыць ад таго, ці ёсць у нас нацыя. Веру, што болей за 20 гадоў барацьбы, страт і пакутаў не былі дарэмнымі, і яна [нацыя] ужо ёсць».

Экс-кандыдат у прэзідэнты падпалкоўнік Мікалай Статкевіч асуджаны на 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Цяпер ён сядзіць у Магілёве.

**ЗП, КМ**

## Сцісла

### За маладафронтаўцам Яроменкам устанавілі прэвентыўны нагляд

15 сакавіка суддзя Сяргей Бандарэнка прыняў адпаведнае рашэнне. Нагляд за Уладзімірам устаноўлены на адзін год. На пасяджэнне маладога чалавека прывезлі ў кайданках з ізалятара, дзе ён адбывае адміністрацыйны арышт. За ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 Уладзіміра Яроменку адправілі на 3 гады ў калонію. Летась яго памілаваў Лукашэнка.

### Палітвязень Бандарэнка дагэтуль у турэмным шпіталі

18 сакавіка Зміцер Бандарэнка пазваніў дамоў з Магілёўскай калоніі. «Лепш яму не становіцца, хаця ён ляжыць у медычнай частцы з канца лютага. Акрамя артрозу адной нагі, пачалося тое самае з другой, па-ранейшаму баліць спіна, трымаецца высокая тэмпература. Лячэнне, якое яму аказваюць у калоніі, не дапамагае», — паведаміла жонка Вольга Бандарэнка. Летась у калоніі Зміцер перанёс аперацыю на хрыбце.

**СМ**

# Завяршыла кар'еру ў 25 гадоў

Немка **Магдалена Нойнер** сышла з біятлона.



Масстарт у расійскім Ханты-Мансійску стаў апошняй гонкай для Лены Нойнер. Немка заняла толькі пятае месца, зрабіўшы шэсць промахаў. Але хто яе будзе дакараць за гэтыя памылкі?

Кар'ера Нойнер была імклівай і яркай. Фактычна на разагрэў ва ўраджэнкі невялікага баварскага гарадка Гарміш-Партэнкірхен пайшоў толькі дэбютны сезон (2005/2006). Потым былі тры «Вялікія глобусы» за першае месца па выніках этапаў Кубка свету. На адзінай сваёй Алімпіядзе ў Ванкуверы Лена заваявала два «золаты» і «срэбра». Чэмпіянаты свету немка выйгравала аж дванаццаць разоў.

Нават калі яна «мазала» на рубяжах, за кошт хуткіх ног удавалася адыгрывацца. А на фінішы Нойнер радавала ўсіх асляпляльнай усмешкай.

Завязала з спортам не праз траўмы, а таму, што надакучыла. «Цяпер хачу жыць нармальным жыццём», — кажа яна.

Вядома, не факт, што, адпачнуўшы год-два, Нойнер не захоча вярнуцца ў біятлон. Але ў наступным сезоне аматарам гэтага віда спорту яе не будзе хапаць.

Наша ж Дар'я Домрачава заняла ў агульным заліку сёлета другое месца. Яна галоўная прэтэндэнтка на месца Нойнер на вяршыні. У тым жа Ханты-Мансійску Дарка двойчы ўздымалася на першую прыступку п'едэстала.

**Зміцер Панкавец**

# «Прэзідэнт-гатэль» адчыніцца ў другой палове года

У ім будзе **VIP-нумар** плошчай 500 кв. м з уласнай саўнай.



«Прэзідэнт-гатэль», будаўніцтва якога завяршаецца на рагу вуліц Кірава і Энгельса ў сталіцы, прыме першых пастаяльцаў у другой палове года.

Як расказаў дырэктар РУП «Гатэль «Мінск» Мікалай Жураўскі, цяпер у новым комплексе ідуць мантажныя і аддзелачныя работы. Пасля іх заканчэння спатрэбіцца яшчэ некалькі месяцаў на ўстаноўку і наладку абсталявання, мэблі.

У гасцініцы размесцяцца 3 рэстараны, 5 бараў, 3 банкетныя залы. Для правядзення буйных мерапрыемстваў прадугледжаны амфітэатр на 600 месцаў, будзе таксама SPA-цэнтр, два басейны (на 10 і 25 м), більярдавая, 3-узроўневы падземны паркінг.

Гасцініца ўсяго за пару крокаў ад будынка Адміністрацыі прэзідэнта. Раней на гэтым месцы размяшчаўся гатэль «Кастрычніцкі».

**ЛМ**

# Візавы рэжым з Турцыяй адменяць



Паводле слоў пасла Турцыі Джэват Незіхі Азкая, чакаецца візіт з Беларусі на самым высокім узроўні, у ходзе якога плануецца падпісанне пагаднення.

Паводле яго слоў, пасля адмены візавага рэжыму паміж Беларуссю і Турцыяй з'явіцца магчымасць арганізаваць штодзённыя авіярэйсы.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



**На вуліцах сталіцы плануюць змяніць дызайн прыпынкаў грамадскага транспарту. Некалькі тэставых канструкцый ужо з'явіліся на вуліцы Янкі Купалы.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Чорны пакет

Нядзельнай раніцай я заўважыў на лесвічнай пляцоўцы ля суседскіх дзвярэй чорны, завязаны крыж-накрыж, як жаночая хустка, пакет. Кінуў позірк ды пайшоў сабе далей па нейкай дробнай нядзельнай справе. Але і праз колькі гадзін пакет нерухома стаяў на тым жа месцы...

Пад вечар я ціскануў суседскі званок. Дзверы расчыніліся. «...Чулі? — суседка, былая доктарка, хуценька дашпільвала на хатнім халаце апошні гузік. — Расстралялі... Я б такіх на месцы расстрэльвала, без суда і следства. Нелюдзі...»

І зноў перад вачыма ўзнікла відовішча, якое пераследуе мяне ўсё жыццё.

Мінск, занесеныя снегам руіны, 1946 год. Велізарны натоўп, чыесьці моцныя рукі ўздымаюць мяне над галовамі, і я бачу, як зрухваюцца, торгаючыся, з месца грузавікі, а ў марозным паветры віснуць на шыбеніцах, хістаючыся з боку ў бок, цёмна-шэрыя, падобныя на знясіленых лялек, постаці...

Я не ведаю, чаму цётка павяла мяне на былы іпадром, на публічнае смяротнае пакаранне нямецкіх ваенных злачынцаў, а запытаць ужо не атрымаецца. Мусіць, яна хацела, каб я запомніў, як адбываецца адплата за злачынствы і святкуе справядлівасць. Але чамусьці я страшэнна расплакаўся. Наўрад ці ад жалю, хутчэй, ад страху. Так, ад страху, бо нейкім незнаёмым раней пачуццём я адчуў, якое безабароннае не чыё-небудзь, не фашыстаў ды іх ахвяр, а маё ўласнае жыццё перад бязлітасцю смяротнага пакарання...

Але ці можа справядлівасць грунтавацца на адчуванні бязмежнага страху?

Увесь нядзельны вечар я слухаў хлуслівыя тлумачэнні афіцыйных тлумачальнікаў, чаму трэ было смяротна пакараць Кавалёва і Канавалава. Зноў і зноў дзеля падтрымкі іх тлумачэнняў экран дыхаў полымем,

## Можна гаварыць «нелюдзі». Але нельга — «не людзі»…

дымам і пылам выбуху, стогнамі і крывёю параненых, смяротнай нерухомасцю цел... Зноў і зноў дзеля падтрымкі іх тлумачэнняў тыкаўся ў скажоныя прагай справядлівасці раты таўсты, нібы граната, мікрафон і неслася з экрана «Нелюдзі!», «Так ім і трэба!»...

Раптам я адчуў, што жыву ў краіне, якая на вачах ператварылася ў Лобнае месца, вакол якога гайдаецца натоўп, задаволены нібыта вышэйшай справядлівасцю смяротнага пакарання...

«Так ім і трэба...»

Але ці трэба нам? Не натоўпу — грамадству.

Бо грамадства — гэта не штучная супольнасць людзей. Гэта супольнасць цывілізацыйных каштоўнасцяў, па якіх жывуць людзі. І найпершае сярод гэтых каштоўнасцяў — жыццё.

Можна гаварыць «нелюдзі». Але нельга — «не людзі»...

Калі тлумачальнікі спасылаюцца на ЗША, яны хітруюць, бо ведаюць, што менавіта Еўропа, да цэнтра якой так любяць яны прылічваць Беларусь, здолела пасля вогнішчаў інквізіцыі, безлічы рэлігійных, грамадзянскіх, дзвюх сусветных войнаў здзейсніць цывілізацыйны духоўны, а потым і прававы прарыў ад пакарання злачынцаў смерцю да пакарання... жыццём.

У Еўропе даўно зразумелі, што, калі дзяржава ператвараецца ў забойцу, у ката, яна нішчыць свой духоўны падмурак, стымулюючы распаўсюд страху — ці не самай спрыяльнай глебы для злачыннасці. Між тым, і ў ЗША нарастае рух за адмену смяротнага пакарання, падмацаваны, дарэчы, найноўшымі дасягненнямі генетыкі. Менавіта дзякуючы даследаванням ДНК, з'явіліся доказы невінаватасці шмат каго з тых, хто быў пакараны смерцю. Да таго ж, ЗША — дэмакратычная дзяржава, там моцнае незалежнае правасуддзе, у якое, як да дзяржаўнай інстытуцыі, існуе непахісная вера.

Да аўтарытарнай дзяржавы веры няма. Няма каму верыць у такой дзяржаве — ні суду, ні тэлебачанню, ні прэзідэнту... Нават царкве, якая, калі не трэба, шмат што гаворыць, а калі трэба ўзнімаць голас, маўчыць...

«Каб іншым непанадна было...» Непанадна што?

Нават калі злачынства адбылося так, як гэта малюе ўлада, яна робіць усё, каб знішчыць слабыя праявы грамадзянскай нязгоды, сутыкнуць натоўп з грамадствам і высмактаць з гэтага сутыкнення найвялікшыя магчымасці для ціску на ўзрушаную свядомасць людзей і, у рэшце рэшт, свайго бясконцага ўладарання...

Такі вось адбываецца ў нашай краіне «тэракт», такая вось хаваецца «бомба» ў чорным пакеце страху...

«...Ваш? — я паказаў былой доктарцы на пакет ля дзвярэй. — Увесь дзень стаіць...» — « А я думала ваш, — доктарка баязліва саступіла ў кватэру. — Можа, сапёраў выклікаць ці МНС?.. Пачакайце, што вы робіце?»...

Я нахіліўся і рашуча развязаў «хустку». Блісканула нейкае шкло, узняўся слупок пяршучага пылу... Смецце, звычайнае смецце. Толькі і ўсяго.

*kamerton_41@mail.ru*

# «Быццам бы навядзенне парадку на зямлі»

«Наша Ніва» высвятляла, хто даў **загад на высечку** лесапалосаў і, галоўнае, дзеля чаго.

**Працяг са старонкі 2.**

Найперш мы звярнуліся ў дарожныя службы Навагрудскага раёна. Як высветлілася, дырэктар ДРБУ-189 Аляксандр Дзяшук вырубку лесапалос не ўхваляе. Адно выказвае здагадкі, нашто тое трэба.

«Лічу, што гэта дурная справа. А робіцца, напэўна, для таго, каб была «красата»... Гэта як быццам бы навядзенне парадку на зямлі».

Лесапалосы заўсёды служылі прыродным фільтрам. Адсутнасць такой «сценкі», па словах Дзяшука, адчувалася ўжо сёлета. «Даводзіцца больш выпускаць тэхнікі для ачысткі дарог пры абмежаваных сёння фінансавых магчымасцях», — кажа Дзяшук.




**Фота зробленае ўвосень у Навагрудскім раёне. А ў райвыканкаме сцвярджаюць, што ідзе «дэкаратыўная стрыжка» елак.**

### Хто будзе есці такі хлеб?

Іншая версія — лесапалосы высякаюць, каб пашырыць палі. «Толькі я не ведаю, хто будзе есці гэты хлеб», — кажа Дзяшук. Ён сумняваецца, што землі пад былымі лесапалосамі прыдатныя для засявання.

«Які там, к чорту, урадлівы слой? Можа, 5 см якога чарназёму і было. Але не 30—40, каб вырасціць нейкі ўраджай». Пры гэтым на Гарадзеншчыне шмат земляў пустуюць. «Проста дзіву даешся!» — ледзь стрымлівае эмоцыі «дарожнік».

«А колькі зараз транспарту! 30—40 гадоў таму машын было значна меней, а нашыя бацькі і дзяды і тады думалі, што не трэба нічога на гэтай паласе садзіць», — кажа ён.

Зімой дарогі багата пасыпаюцца соллю, значная колькасць якой асядае ў зямлі бліз дарогі. 30 гадоў таму, калі Дзяшук прыйшоў у ДРБУ кіраўніком, за зіму атрымлівалі 2 вагоны солі. Цяпер высыпаецца 1,5 тысячы тон солі толькі на мясцовыя дарогі! «А ДЭУ-56 яшчэ больш высыпае на меншую колькасць дарог. У мяне — 747 км, а ў іх недзе 340 км дарог», — кажа Дзяшук.

### «Я чалавек небальшэнькі»

ДЭУ-56 — яшчэ адна дарожная служба, што праводзіла вырубку. Арганізацыя абслугоўвае трасу Гродна—Мінск, выезды на Карэлічы, Іўе, Баранавічы, Дзятлава, Бярозаўку і Гродна.

Яе дырэктар Якаў Праскоўскі гэтак пракаментаваў сітуацыю: «Размова не па тэлефоне. Прыедзьце, калі што. Не па маёй волі гэта робіцца».

Дык чыя воля высякаць дрэвы? Абодва дырэктары не прызнаюць адказнасці і спасылаюцца на рашэнне райвыканкама. А яно нібыта выпісана на падставе загада кіраўніка вобласці Сямёна Шапіры. Зрэшты, і губернатар — не апошняя інстанцыя. Як лічыць Дзяшук, «ідзе каманда зверху ад прэзідэнта пра навя-дзенне парадку».

Чаму ніхто з кіраўніцтва ці простых работнікаў не паспрабавалі аспрэчыць рашэнне, якое ім падаецца няслушным?

«Напэўна, я вам скажу, што ўсе баяцца за свае месцы, — мяркуе Дзяшук. — Улада ёсць улада... Я чалавек небальшэнькі», — кажа ўпраўленец з 30-гадовым стажам.

### Тлумачыць — сабе на шкоду

«Мне тлумачыць вам — сабе на шкоду, — прызнаецца іншы начальнік, Праскоўскі. — Я выканаўца, я абавязаны выконваць каманду. А вырубаць гэтую елку, па вялікім рахунку, нельга. Зімой яна абараняе дарогу ад снегу, захоўвае снег на палях...Гэта елка садзілася яшчэ дзядамі». Ён дадаў, што ёсць рашэнні райвыканкама, што ў пэўных месцах трэба прыбраць лесапалосы, каб павялічыць палі. Праскоўскі паабяцаў назваць нумар гэтага дакумента.

Аднак на наступны дзень ён гэтага не зрабіў, а параіў звярнуцца ў райвыканкам. Больш за тое, высякалі толькі старыя елкі, што не выконвалі ахоўных функцый, сказаў Праскоўскі.

Мы запыталі, чаму ўчора «выконвалі», а сёння ўжо не, як так? На што пачулі: «Ну, так. Прабачце, я вельмі заняты...»

### ДАІ таксама супраць

Вось што сказаў старшы інспектар ДАІ Навагрудка Сяргей Ліннік: «Пачалі выразаць гэтыя елачкі. А яны служаць для таго, каб затрымліваць снег на палях і каб гэты снег не пералазіў на праезную частку. Менш будзе снегу на дарозе, менш тады будзе працы дарожным службам, — кажа Ліннік. — Вось гэта я лічу няправільным. Аднак такая каманда дарожным службам была».

Ён пацвердзіў, што наяўнасць лесапаласы спрыяе бяспецы дарожнага руху. Як і два папярэднія суразмоўцы, Ліннік выказаў думку пра павелічэнне плошчаў палёў.

На статыстыку ДТЗ вырубка лесапалосаў не паўплывала, кажа інспектар. Але «гэты працэс яшчэ толькі пачаўся, не ўсё яшчэ высекілі, можа, працэнтаў 10—15%. Калі высякуць усё, тады бу-дзе бачна».

Па словах Лінніка, не ўсе ў райвыканкаме згодныя з татальнай вырубкай лесапалос.

### Дэкаратыўная «стрыжка»

Мы запыталі ў намесніка старшыні Навагрудскага райвыканкама Юрыя Калановіча, чаму ўздоўж дорог высякаюць лесапалосы.

«Ідзе дэкаратыўная «стрыжка» елак. Тыя ўчасткі, дзе дрэвы ссохлі, там пару ўчасткаў убіраюць. Але каб сказаць, што павальна высякаюць — такога няма...Навошта, каб ссохлая елка стаяла ўздоўж паласы?» — кажа Калановіч.

Тады мы запыталі чыноўніка, чаму кіраўнікі дарожных службаў і інспектар ДАІ негатыўна выказваюцца пра такія работы.

«Я не магу вам адказаць на гэта пытанне. Я перагавару са старшынёй і дам вам інфармацыю», — кажа Калановіч.

Вось што адказаў чыноўнік праз некалькі дзён: «Там, дзе елкі ў добрым стане, прыгожыя, пышныя, выконваюць ролю агароджы, мы іх не высякаем і не плануем высякаць. Калі верхавіна зялёная, а ніз цалкам рэдкі і сухі — гэта прыбіраем. Мы ўсё-ткі прынялі рашэнне ўсё не прыбіраць. Гэта ДАІ было ў курсе, што мы хацелі цалкам прыбіраць... Спачатку хацелі максімальна навесці парадак. Але там дзе сапраўды пышныя, роўныя, мы іх чапаць не будзем».

### Водгукі

**З каментароў на сайце nn.by**

«**Быў паўгода ў камандзіроўцы ў Гомельскай вобласці** і ўвесь гэты час назіраў знішчэнне прыдарожных палос. Не магу зразумець — нашто???»

«**Як і высечкі дрэваў у гарадах**, усё гэта робіцца з адной выключнай мэтай — засвоіць нашы грошы. Распіл сродкаў».

«**Хойніцкі раён Гомельскай вобласці**. Такая ж сітуацыя. Па дарогах цяпер едзеш, як па пустыні».

«**Барысаўскі раён Мінскай вобласці, дарога Ухалода—Мётча** была засаджана маладымі бярозкамі. Сёння апошнія бярозкі каля в.Мётча высечаны. Дзікунства XXI стагоддзя».

«**Тое самае робіцца каля** Смаргоні».

«**У Мінскай вобласці — таксама.** І нікога не кранае, што там будзе расці і хто пасля гэна будзе есці. Дарожнікі маўчаць, баяцца. Разумеюць, але баяцца».

«**Гомельская вобласць:** дрэвы, галлё спальваюцца на месцы. Хоць у забруджаных раёнах гэта нельга рабіць, каб не разносіць радыенукліды».

«**Бацькі жывуць у Рэчыцкім раёне,** дык мала таго, што ўздоўж трасы ўсё высеклі, дык і ўздоўж прасёлачных дарог усе кусты знішчылі. На полі, дзе пасвіліся каровы, была копанка і дзясятак дрэваў (каровы летам ад сонца хаваліся), таксама ўсё выкарчавалі. А потым закапалі тут жа ў ямы. На гэтым месцы за год-другі зноў усё зарасце. Нашто гэта рабіць? Грошы няма куды дзяваць? Я думаў, гэта толькі ў нас — аказваецца, ва ўсёй краіне ідзе такое».

«**У Маладзечанскім кірунку** ўздоўж чыгункі знішчаны векавыя елкі, якія абаранялі ад заносаў. Усё спалілі. Сэнс няясны. Поля тут не зробіш».

«**Гэта ўсё праграма «Чыстыя палі».** Яна дазваляе мясцовым «гаспадарам» такім чынам не толькі высекчы кусты на палях, але і пашырыць за кошт санітарных адводаў зямель уздоўж дарог. У Віцебскай вобласці ў 2012 годзе плануецца накіраваць на гэта Br90 млрд».

«**Хачу падзякаваць за артыкулы!** Нізкі паклон Вам і дзякуй за тое, што Вы ёсць».

Калановіч не пацвярджае, што рашэнне пра «навядзенне парадку» было прынятае на абласным узроўкі.

«Гэта было ў плане па навядзенні парадку на прыдарожных палосах і павелічэнні пасяўных плошчаў. Такое рашэнне было ў нас у раёне для таго, каб навесці парадак уздоўж трасаў рэспубліканскага значэння... Мы самі аб'ехалі, склалі план працы».

У нас стварылася ўражанне, што пратэсты людзей даюць эфект і «дэкаратыўную стрыжку» ў Навагрудскім раёне патроху згортваюць.

**Аксана Рудовіч**

**Калі ласка, паведамляйце пра аналагічныя факты. Асабліва цікава пачуць, дзе і дзякуючы чаму ўдалося спыніць высечкі.**

# «Можаш атрымаць 82 тысячы даляраў, а можаш усё страціць»

**«МММ» працягвае дзейнічаць, нягледзечы на рэйд КДБ.**

**Ніякіх дакументаў. Усё будуецца на даверы »**



У 2003 Сяргей Маўродзі ўжо быў асуджаны за махлярства ў буйных памерах.

Пасля пятнічнага налёту на мінскі офіс піраміды «МММ-2011» не думалася, што нехта з яе арганізатараў пойдзе на кантакт. Таму, калі набіраў нумар аднаго з прадстаўнікоў (тэлефон убачыў на вялікай абвестцы-рэкламе ў Заслаўі), асабліва ні на што не спадзяваўся. Але пасля непрацяглых гудкоў адказаў мужчынскі голас.

«Добры дзень. Я тэлефаную па абвестцы наконт укладаў пад 60 працэнтаў у месяц. Можам сустрэцца, каб абмеркаваць?» — «Так. Вы ў Заслаўі?» — «Не, але часта бываю там». — «Тады пад'язджайце ў любы дзень».

Дамовіліся сустрэцца на вакзале чыгуначнай станцыі «Беларусь» — так называецца яна ў Заслаўі.

Да мяне падышоў малады чалавек гадоў 25-ці. Назваўся Раманам. Адразу ўручыў буклет «Мы можам многае!» з прыкладнай табліцай росту ўкладаў, якая за год са $100 пры самых высокіх працэнтах абяцала суму, у восемсот разоў большую — $82510. Але малады чалавек паспяшаў прагаварыць, што «МММ-2011» — гэта фінансавая піраміда, а таму ў любы момант можна ўсё страціць, а не толькі зарабіць. Гэтыя словы, праўда, не ўспрымаюцца, калі ў галаве ўжо круцяцца сумы з пяццю нулямі.

«На сайт Маўродзі заходзіў?» — «Заходзіў, але там шмат літар — чытаць лянота». Раман пачаў тлумачыць сістэму працы. «Я — сотнік. Грошы можаш мне на рахунак пакласці. Але ў такім выпадку я павінен буду з гэтай сумы сплаціць 12 працэнтаў падатку. Лепш, каб мне на рукі грошы перадаў». — «А нейкія дакументы будуць афармляцца, гарантыя якія?» — «Ніякіх дакументаў. Хіба толькі чэк магу даць, які пацвярджае, што грошы я паклаў сабе на рахунак. Усё будуецца на даверы. Я вось машыну прадаў за $2500 і ўсё паклаў на розныя ўклады. І цяпер маю $1500 штомесяц, гэта з рознымі бонусамі».

«А праблем не будзе? Тут жа супрацоўнікі КДБ узялі штурмам мінскі офіс «МММ-2011»?» — «Не будзе. КДБ уварваўся, людзей пахапаў, але нічога прад'явіць ім не могуць. Гэта было зроблена для таго, каб запужаць людзей, каб грошы не неслі». — «І на далейшую працу гэта ніяк не паўплывае?» — «Думаю, не. Хаця ўсё можа скончыцца і праз 3 месяцы, і праз 6. У 1994-м піраміда працавала паўгода. А мы ўжо дзейнічаем год і два месяцы. Пасля шуміхі з КДБ мы спынілі выплаты на 5 дзён, каб людзі ў паніцы не кінуліся забіраць уклады. Але заўтра [сустрэча адбылася 19 сакавіка — «НН»] аднаўляем выплаты. Вось я — фізічная асоба, незаконнай дзейнасцю не займаюся. Хаця ў нашай дзяржаве могуць пасадзіць ні за што».

«А на які тэрмін у асноўным кладуць грошы?» — «На тры месяцы». — «Чым меншы тэрмін, тым меншая верагоднасць усё страціць?» — «Так, але тады і працэнты меншыя». І перад тым, як развітацца, Раман прывёў яшчэ прыклад нібыта сваіх сяброў. Яны паклалі 50 даляраў на тры месяцы і 50 на год. З першых яны маюць утрая большую суму. «Ужо ў плюсе. А з тымі, што ляжаць год... А хто ведае, што будзе праз год?»

**Кастусь Матушыч**




**Рэклама «МММ» у Заслаўі.**

На старонцы групы «МММ-2011 у Беларусі» «Вконтакте» размяшчаюцца нумары тэлефонаў так званых дзясятнікаў. Набіраем Антона з Мінска. Ён сказаў, што «праца прыпынена да лепшых часоў». Сяргей з Гомеля адзначыў, што «на шчасце ці на жаль, ужо не займаецца гэтым». А мінчук Павел быў здзіўлены, што яго кантакты яшчэ недзе ёсць, бо іх як дзясятнік нідзе не пакідаў. «Вы маеце дачыненне да «МММ-2011»? — «Так, але толькі як удзельнік». — «Праз Вас можна стаць таксама удзельнікам піраміды?» — «Не».

# КДБ разграміў «МММ»

**«Дазвольце «МММ» у Беларусі, дайце блаславенне… І я за месяц ці два спыню інфаляцыю», — прасіў Маўродзі ў Лукашэнкі.**

«У межах працы па арганізацыі эканамічнай бяспекі дзяржавы і спыненні злачынстваў Камітэтам дзяржаўнай бяспекі выяўлена і спынена незаконная дзейнасць на тэрыторыі рэспублікі фінансавай піраміды «МММ-2011», — паведаміў цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ пасля пятнічнага рэйду ў мінскі офіс піраміды.

КДБ агучыў маштабы дзейнасці беларускага філіяла піраміды: «у фінансавыя махінацыі былі ўцягнутыя некалькі тысяч грамадзян, а даход кампаніі склаў больш за 500 мільёнаў рублёў».

### Беларускі след

Варта адзначыць, што выяўленыя і затрыманыя КДБ паслядоўнікі сумнавядомага Сяргея Маўродзі і не думалі хавацца. На заблакаваным цяпер сайце філіяла піраміды ўсіх зацікаўленых адкрыта запрашалі ў офіс на праспекце Незалежнасці.

Маштабная рэклама піраміды ў Беларусі пачалася пры канцы мінулага года. У рэкламных буклетах і ўлётках сцвярджаецца, што нічога незаконнага ў дзейнасці піраміды няма. Маўляў, добраахвотныя ўнёскі людзей з'яўляюцца глабальнай касай узаемадапамогі ў наш няпросты час. А сам Маўродзі летась паспрабаваў згуляць на балючай для беларусаў тэме інфляцыі, звярнуўшыся да Лукашэнкі.

«Аляксандр Рыгоравіч, выхад ёсць. Дазвольце «МММ» у Беларусі, дайце блаславенне... І я за месяц ці два спыню інфаляцыю, спыню падзенне беларускага рубля», — прапанаваў ён сваю схему фінансавай стабілізацыі ў Беларусі.

### Як дзейнічае «МММ»

Новая піраміда «МММ-2011: мы можам многае» стартавала ў Расіі 11 студзеня 2011. Для стварэння новай піраміды Маўродзі задзейнічаў інтэрнэт. Гэтым разам адкрыта і настойліва папярэдзіў пра рызыку ўдзелу ў пірамідзе.

Прынцып дзеяння новай піраміды такі: добраахвотнікі аб'ядноўваюцца ў дзясяткі, якімі кіруюць давераныя асобы Маўродзі, так званыя «дзясятнікі». Дзясяткі аб'ядноўваюцца ў сотні (куратар — «сотнік»), сотні — у тысячы («тысячнік»).

Шараговыя ўдзельнікі сістэмы камунікуюць выключна ў межах сваёй дзясяткі. Пачаткоўцы адчыняюць два рахункі ў сістэме WebMoney. Праз адзін з іх набываюцца за ўзмані віртуальныя МММ-даляры (курс вызначае сам Маўродзі). Курс віртуальнай валюты ўвесь час расце. На другі рахунак прыходзяць грошы за прададзеныя МММ-даляры. Каб іх прадаць, трэба паведаміць свайму дзясятніку. Той выбірае з дзясяткі добраахвотніка, які выкупіць у вас вашы МММ-даляры. Адмовіць дзясятніку нельга, бо ў такім выпадку вас выдаляць з сістэмы і занясуць у «чорны спіс». У якасці кампенсацыі «адступнік» атрымлівае толькі першапачатковы ўнёсак. Працэнты пры гэтым не прадугледжваюцца.

**Сямён Печанко**

**Ахвяры першай «МММ»**

Першая піраміда Маўродзі, удзельнікамі якой сталі ад 10 да 15 мільёнаў чалавек, праіснавала каля 6 месяцаў — з лютага па жнівень 1994. Паводле афіцыйных дадзеных, шкода, нанесеная ўкладчыкам «МММ», склала больш за $100 млн, па неафіцыйных звестках — да $80 млрд. Маўродзі зацікавіліся праваахоўныя органы, але арыштаваны ён быў толькі ў 2003. Суд адмераў яму 4,5 года калоніі, якія ён адбыў пад следствам.

## Сцісла

### Трайное забойства беларусаў-гастарбайтараў у Падмаскоўі

У Падмаскоўі шасцёра беларусаў-гастарбайтараў зарэзалі трох землякоў, аднаго — нават расчлянілі. Усё гарэлка зрабіла.

### Як заклятае — метро

У Мінску ўвечары 18 сакавіка на рэйкі метрапалітэна зноў зваліўся мужчына. Інцыдэнт адбыўся на станцыі «Плошча Леніна». 30-гадовы жыхар Барысава проста самлеў. Людзі тлумачаць шматлікія здарэнні тым, што многія людзі недаядаюць.

### Лавілі папутку — збіў аўтамабіль

Дзве жанчыны загінулі пад коламі ноччу 19 сакавіка ў Смалявіцкім раёне. На іх наехаў 33-гадовы вадзіцель «Фіята-Пунта», што быў п'яны за рулём.

### Вецер паваліў дом

Парывы буры ў панядзелак 19 сакавіка дасягалі 26 м/с. Вецер нарабіў шкоды ў 255 вёсках. А ў Верхнядзвінскім раёне нават паваліў франтон адной з хатаў.

### Дзядзька ў Вільні. П'яны

У мінулую суботу віленская паліцыя ўтаймоўвала агрэсіўнага грамадзяніна Беларусі. Ён не толькі выбіў шыбу рэстарана ў цэнтры літоўскай сталіцы, але і шкло паліцэйскага аўтамабіля. Дэбашыра затрымалі.

**СГ**



Прэмію фундуе расійскі бізнэсовец з беларускімі каранямі Павел Бераговіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Дэбют» атрымалі Брыль, Марціновіч, «Прайдзісвет»

Расійскі бізнэсовец з беларускімі каранямі Павел Бераговіч (на фота) выступіў фундатарам літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Беларускі ПЭН-Цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў уручаюць яе за найлепшую дэбютную кнігу года. 14 сакавіка, у дзень, калі Багдановіч паставіў на свaім «Вянку» першыя аўтографы, прэмія была ўручаная. Яе атрымалі паэт Антон Францішак Брыль (унук Янкі Брыля) за кнігу «Не ўпаў жолуд». У намінацыі «Проза» перамог інтэрнэт-раман Віктара Марціновіча «Сцюдзёны вырай», у намінацыі «Пераклад» — кніга Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці», якую летась выдаў па-беларуску калектыў рэдакцыі часопіса перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет» — Юля Цімафеева, Ганна Янкута, Кацярына Мацієўская і Алена Пятровіч.

**СМ**

# За кулісамі прапагандысцкага тэлешоу

Карэспандэнты «НН» наведалі здымкі перадачы **«Время союза»**, прысвечанай дню яднання Беларусі і Расіі.

Студыя, дзе здымаецца «Время Союза», месціцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ — невялікае памяшканне, разлічанае на чалавек трыццаць масоўкі. Тэлеканал саюзнай дзяржавы здымае тут некалькі выпускаў праграмы запар, аднак галоўны той, што прысвечаны дню яднання 2 красавіка.

### Праверка мікрафона

Студыю ўпрыгожылі самаварамі, сушкамі, абаранкамі, снапамі жыта і іншай атрыбутыкай, якая, відаць, мусіць асацыявацца з саюзнай дзяржавай. Перад пачаткам здымкаў вядоўцы — Ігар Угольнікаў і Ірына Дарафеева — рэпетыравалі песню «Две сестры — Беларусь і Россія» пад акампанемент гітары і акардэона.

Госці студыі — драматург Андрэй Курэйчык, спевакі Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская, футбалісты Юрый Пудышаў і Анатоль Байдачны. Спіс удзельнікаў некалькі разоў змяняўся. За некалькі дзён да здымак у ім фігураваў, напрыклад, мастак Уладзімір Цэслер. Аднак на перадачы яго не было.

У кароткі прамежак часу, калі госці праграмы ўжо зайшлі ў студыю, але здымкі яшчэ не пачаліся, можна было назіраць дзіўную карціну: як жывыя людзі, якія размаўляюць і жартуюць, пераўтвараюцца ва «ўрачыстых» гасцей, якія пасля з прыдыханнем пачнуць прамаўляць панегірыкі саюзнай дзяржаве.

«Баранаў ні ў чым не вінаваты!» — кажа Паплаўская падчас праверкі мікрафона.

### «Шампанскае сапраўднае, я нюхаў»

Масоўка, якая ходзіць на «Время союза», — прафесійная. Яны абмяркоўваюць, «ці здымаемся мы ў кіно на выходных», «а вось гэты валасаты тут быў, а цяпер няма — а грошы ж за абедзве праграмы атрымае».

Асаблівую ўвагу масоўшчыкаў (далёка не студэнтаў, а людзей гадоў за сорак) прыцягнула падрыхтоўка «святочнага стала» — перад гасцямі перадачы паставілі шклянкі з шампанскім («яно сапраўднае, я нюхаў» — зазначыў адзін з масоўшчыкаў), салаты і дранікі. Пакуль госці рэпетыруюць песню «Старый клён», масоўшчыкі перамаўляюцца:

— А давайце нашу праспяваем!

— Гэта якую — нашу?

— Ну «Ляпісаў», гэтую, дзе «ўсё, атработалі лавэ».

Здымкі пачынаюцца.

### Угольнікаву смешна ад мітынгаў

Угольнікаў і Дарафеева спяваюць «Шумел камыш, деревья гнулись». Пасля абвяшчаюць, што перадача прысвечаная «нараджэнню саюзнай дзяржавы», абяцаюць песні, тосты і анекдоты.

«Спадзяюся, не палітычныя», — удакладняе Дарафеева.

«Канечне, не, — кажа Угольнікаў і пачынае хахміць пра апазіцыю. — У краіне, дзе ідзе дэмакратызацыя, не існуе палітычных анекдотаў. Іх замяняюць мітынгі. Асабліва ў Маскве нядаўна смешна было».

Асістэнтка на мігі паказвае масоўцы, што трэба апладзіраваць удаламу жарту. Тым часам жаночы голас з трэцяга шэрага прамаўляе: «Ага, смешна. У нас па серадах нядаўна таксама смешна было?»

Акцэнт перадачы паступова зміяшчаецца ў бок святкавання — увесь час гучыць заклік «наліваць, каб градус не зніжаўся», бо гэта «наша беларуская і расійская традыцыя». Кожны госць мусіць узняць тост за нешта. Андрэй Курэйчык, які фігуруе ў «чорным спісе» дзеячаў культуры, асцярожна фармулюе пра тое, што «культура не мае межаў», расказвае пра свае сустрэчы з Алегам Табаковым і хоча надалей супрацоўнічаць з расійскімі артыстамі.

Футбалісты Байдачны і Пудышаў, якія самі прыехалі з Расіі, прызнаюцца, што лічаць сябе грамадзянамі СССР, і вельмі радыя, што Беларусь з Расіяй яднаюцца.

### Лукашэнка і «Брэсцкая крэпасць»

Пасля Угольнікаў сам расказаў гісторыю пра тое, як паказваў фільм «Брэсцкая крэпасць» Лукашэнку.

«Прэзідэнту вельмі спадабалася, ён нават выцер слязу. І гэта вельмі важна. А пасля падышоў да мяне і сказаў: там у пачатку фільма можна ўбачыць рапсавае поле, а ў Беларусі ў 1941-м рапс не сеялі».



За сталом (злева направа): Байдачны, Угольнікаў, Дарафеева, Курэйчык, Паплаўская, Ціхановіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Баранаў ні ў чым не вінаваты!»

Ціхановіч і Паплаўская падымаюць тост за «нашую супольную сям'ю» (маючы на ўвазе ці то Беларусь і Расію, ці то сябе). Пасля разам з гасцямі пачынаюць спяваць пра «малінаўкі галасок».

Паміж прамовамі на экране транслююцца сюжэты пра саюзныя дасягненні — сустрэчы пісьменнікаў і журналістаў (асноўная ідэя сюжэта — «беларускія кнігі не перакладаюць на расейскую мову»), замену сої лубінам, а таксама хроніка падпісання саюзных дамоваў. Тым часам асістэнтка са здымачнай групы даліває «шампанскае» з бутэлькі дарыдаўскай «Крэмсоды» гасцям. Гэта трошкі супакойвае масоўку, якая ўвесь час перамаўляецца пра ежу і алкаголь на стале гасцей.

Пасля харавых спеваў масоўка чамусьці скандуе «Горка!» і пачынае абмяркоўваць, як трапіць за стол, накрыты для гасцей. Канец фільма.

**Юрась Ускоў**

## Сцісла

### Выйшлі Правілы дарожнага руху па-беларуску

У выдавецтве «Радыёла-плюс» выйшаў кніжачкай беларускі пераклад Правілаў дарожнага руху. Ініцыятарам выдання было Таварыства беларускай мовы. Цяпер ТБМ будзе дабівацца, каб яны былі зацверджаныя спецыяльным указам кіраўніка дзяржавы.

А ці можна ўжо зараз здаваць на правы па-беларуску? «Грунтуючыся на Законе аб мовах, мы маем такое права», — лічыць кіраўнік ТБМ. А ў новай кніжцы можна пазнаёміцца са спецыяльнай лексікай, хто яе не ведаў.

### Стварылі Раду абароны помнікаў, каб яна... ініцыявала іх разбурэнне

Большасць членаў Горацкай раённай Рады па захаванні і памнажэнні гісторыка-культурных каштоўнасцяў выступаюць за выключэнне з Рэестра культурных каштоўнасцяў Беларусі некалькіх будынкаў у Горках. Дамы знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Але Рада, у кіраўніцтва якой уваходзяць рэктар БДСГА Аляксандр Курдзека, старшыня аддзялення «Белай Русі» Аляксандр Чачоткін і начальнік аддзела адукацыі райвыканкама Святлана Браніцкая, пішуць у Мінкульт, што «на аднаўленне і захаванне будынкаў у бюджэце няма сродкаў». У Горках кажуць, што чыноўнікі апелююць да непасрэднага загаду Мясніковіча.

### Заняткі па беларускай мове і гісторыі для вучняў

Бясплатныя заняткі па беларускай мове і гісторыі для вучняў 7—9 класаў школ Мінска і Мінскага раёна з дасведчанымі выкладчыкамі арганізуе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны». Арганізацыйны сход — 23 сакавіка (пятніца). Пачатак 18.30 на Сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13, раён метро «Плошча Перамогі»).

**ЮУ, ЛМ, Horki.info**

# Беларуская глыбіня. **Эрнст Сабіла**

Піша **Павал Севярынец**.



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Будзь мне трывалым*
*прыстанішчам,*
*куды я заўсёды*
*мог бы схавацца;*
*Ты наказаў ўратаваць мяне,*
*бо цвярдыня мая*
*і крэпасць мая — Ты.*
*Псальма 70:3*



Калі ўпершыню бачыш пастара Эрнста Сабілу — каржакаватая постаць, вялікая галава з літымі скуламі, пільныя вочы ў глыбокіх вачніцах і валявое падбароддзе старадаўняе, шырокае ліцвінскае косці, — не можаш пазбыцца ўражання: такія трымаюць на сабе беларускае неба. Усю шэрую, пахмурную глыбу да самага далягляду.

Пастару Сабілу — восемдзясят. «Дзён гадоў нашых — семдзесят гадоў, а пры большай моцы восемдзясят гадоў — спяваецца ў 89-й псальме, — і лепшая іх пара — праца і хвароба, бо праходзяць хутка, і мы ляцім». Але і ў свае восемдзесят пастар Сабіла магутны. Гэта ж такую моц даў чалавеку Бог, што і пасля трынаццаці гадоў ГУЛАГа, дзесяцігоддзяў уціску, цярпенняў і барацьбы цягае мяхі з цэментам на будоўлі Дома малітвы.

Сабіла прымружваецца (вочы як байніцы) — і ў далёкім-далёкім позірку пазнаеш вялікіх вернікаў, уладароў ВКЛ, ваяводаў і правадыроў, што верылі ў Госпада і стаялі за сваю айчыну не на жыццё, а на смерць. Радзівілаў. Скарыну. Сапегу.

Нарадзіўся ў Дзегцяроўцы, пад Мінскам. Сям'я Сабілаў як ненадзейная была выселеная падалей ад савецка-польскай мяжы — у Бабруйск. Падчас нямецкай акупацыі далучыліся да евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Партызанілі.

У 1951-м студэнт Медыцынскага інстытута ў Мінску Эрнст Сабіла быў арыштаваны гэбістамі. Арытыкул 72б савецкага крымінальнага кодэкса: «Актыўная антысавецкая агітацыя з ужываннем рэлігійных і нацыянальных забабонаў». Прысуд — расстрэл. Расстрэл быў заменены на 25 гадоў пазбаўлення волі.

І быў голад. Былі здзекі. Былі хваробы. Спярша ў Падмаскоўі, потым на ўранавых шахтах у Усць-Каменагорску. Сабіла двойчы ўцякаў з лагера. Стралялі. Выжыў цудам: у найлепшага стралка аховы, які стаяў на вышцы, раптам заклініла зброю.

**Такія трымаюць на сабе беларускае неба »**

Вызвалены, жыў пад пастаянным наглядам КДБ.

У 1988-м, ледзь толькі дыхнула Адраджэннем, Эрнст Сабіла арганізоўвае ў Мінску Беларускую Евангельскую Царкву. Вернікі з усёй Беларусі ехалі ў Сабілаву кватэру на Паўднёвым Захадзе... У 1989-м на I з'ездзе БНФ у Вільні менавіта пастар Сабіла зачытваў Божае Слова, а затым і правіў малітвы на першых фронтаўскіх мітынгах. У 1990-я Сабіла як прадстаўнік пратэстантаў быў адным з сустаршыняў Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці.

30 мая 2006-га ўлады пазбавілі Беларускую Евангельскую Царкву рэгістрацыі.

У адказ пастар Сабіла (сам — крэпасць Божая сярод беларускіх руінаў) збудаваў у Асіповічах гэткі ж магутны Малітоўны дом. На будоўлі здарыўся цуд. Цікаўныя хадзілі глядзець на ўласныя вочы: дом меўся стаяць у нізіне, і нават лужыны тут не высыхалі, але вялізны катлаван, у якім магла б змясціцца цэлая хата з дахам, застаўся сухі.

Усе апошнія гады і рэшту сваёй цялеснай дужасці пастар Сабіла ўклаў у будынак на краі балота. Эрнст Канстанцінавіч верыць, што неўзабаве гэтыя вялізныя залы будуць запоўненыя евангельскімі вернікамі, якія славяць Бога па-беларуску.

На сустрэчах з Сабілам, палітвязнем савецкіх часоў, моладзь замірае. І ў цішыні словы ягонага сведчання кладуцца, быццам камяні ў падмурак.

Сабіла сведчыць пра Бога ў сваім жыцці.

Сабіла расказвае пра Беларусь, ягоны крыж.

Цярплівы пастар Сабіла не разумее, як можна быць цярпімым да зла, як можна ўваходзіць у кааліцыі з камуністамі.

І ўжо сёння менавіта пастар Сабіла, патрыярх беларускага евангельскага руху, прабіваецца на Валадарку да Сяргея Каваленкі, які памірае за бел-чырвона-белы сцяг...

Сабіла гаворыць важка, вытрымлівае паўзы, і гэтыя паўзы цяжкія, як ягоны спакутаваны, але спакойны позірк спадылба, — каб да слухача дайшло.

— Набліжаецца мой час стаць перад Госпадам, — ціха, павольна, але так, што мурашкі па скуры, выгаворвае Эрнст Канстанцінавіч, — і ўжо адчуваю: свет рыхтуецца да таго, хто прыйдзе перад Хрыстом. Антыхрыста. Адчуваю вакол гэты дух.

Дух апошніх часоў...

«Мы жывём сярод страшнага народа, які выракаецца сваіх продкаў», — сказаў калісьці Сабіла.

Маладыя і не вельмі пастары, якія нават не мысляць шырынёй народа і глыбінёй краіны, дадзенай ім Богам, якія цураюцца казані на роднай мове, не заўважаюць тых нямногіх, хто, па грудзі ў твані, з астатніх сіл трымае на сваіх плячах і ўсю Беларусь, і іх саміх.

Глядзіш на Сабілу і думаеш: здужае...

Але вытрымаць такі крыж чалавеку пад сілу толькі тады, калі ў ягоным знадрыўным сэрцы, у ягоных зраненых руках, у ягоных напружаных жылах жыве сам Збаўца. Бог Скарыны, Сапегі, Сабілы — Ісус Хрыстос.

*Куплін*

# У якой Беларусі жыве Рубінаў?

Старшыня савета рэспублікі выдаў чарговую **порцыю дэмагогіі**.

## Фантазіі акадэміка Рубінава пра «бясплатную» Беларусь



PHOTO.BYMEDIA.NET

«Ну а як жа ідуць справы з правамі чалавека ў Беларусі? Бо нас пастаянна папракаюць у тым, што яны тут парушаюцца. Давайце разбярэмся», — піша Рубінаў ў «Советской Белоруссіі». І прыводзіць прыклады, ад якіх узнікае адно пытанне: у якой Беларусі ён жыве?

*«Бясплатная адукацыя ў школе для ўсіх дзяцей, ды яшчэ і з харчаваннем. Бясплатная вышэйшая адукацыя, прадастаўленне выпускнікам першага працоўнага месца. Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, вялікая колькасць піянерскіх лагераў, дамоў адпачынку і санаторыяў, беспрашкодная магчымасць адпачываць за мяжой, наогул беспрашкодны выезд за мяжу (зразумела, за выключэннем асаблівых выпадкаў, абумоўленых законам). Гэта значыць усе базавыя правы — на працу, на адпачынак, на адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, забеспячэнне старасці, на свабоду перамяшчэння і выбар месца жыхарства — не проста дэкларуюцца, але на практыцы ў поўнай меры забяспечваюцца дзяржавай».*

Прывёўшы прыклады, акадэмік даводзіць наступнае: «Любы разважны чалавек ведае, што ў нас няма ніякага ўшчамлення грамадзянскіх правоў ні па нацыянальнай, ні па рэлігійнай, ні па саслоўнай або любой іншай прыкмеце. Прычым гаворка ідзе не толькі аб роўнасці правоў на паперы, па Канстытуцыі, але аб рэальным забеспячэнні аднолькава камфортных умоў для ўсіх, хто пражывае ў нашай дзяржаве, не важна, нарадзіўся ён тут або прыехаў на жыхарства з іншай краіны. Хто гэтага не ведае? Ці можа запярэчыць па сутнасці з фактамі, а не з дапамогай дэмагогіі? Гатовы ўступіць у палеміку».

Паспрабуем прывесці факты, як таго просіць старшыня савета рэспублікі.

*«Бясплатная адукацыя ў школе для ўсіх дзяцей, ды яшчэ і з харчаваннем»*

Так, навучанне ў беларускіх школах фармальна бясплатнае, але ці не забыў выпадкам шаноўны акадэмік пра аплату за карыстанне падручнікамі, пра штогадовыя зборы на рамонт школы, пра абавязковы продаж білетаў на хакей?

Што да харчавання, то бясплатна харчуюцца толькі дзеці са шматдзетных сем'яў і вучні пачатковых класаў. Прычым і там грошай ад дзяржавы выдаткоўваецца мала, таму бацькам прыходзіцца даплачваць.

*«Бясплатная вышэйшая адукацыя, прадастаўленне выпускнікам першага працоўнага месца»*

Акадэмік, магчыма, не ў курсе, што на сёння толькі кожны трэці студэнт вучыцца бясплатна. Іншыя вымушаныя вучыцца за ўласны кошт або за сродкі арганізацый. Па хуткасці росту цаны навучання летась Беларусь апярэдзіла сваіх суседзяў.

Пра тое, чым часам абарочваецца прымусовае размеркаванне, якое Анатоль Рубінаў цнатліва назваў «прадастаўленнем выпускнікам першага працоўнага месца», пісалася неаднойчы.

*«Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, вялікая колькасць піянерскіх лагераў, дамоў адпачынку і санаторыяў»*

Не выключана, што чыноўнікі ўзроўню Рубінава бясплатна лечацца ў спецыяльных урадавых медычных установах. І не ведаюць, што такое чарга ў звычайнай паліклініцы. Любы беларус, які меў магчымасць лячыцца ў простай бальніцы, раскажа акадэміку Рубінаву, што не першы год ў лякарню з сабой трэба браць уласны посуд, шпрыцы для ўколаў і г.д.

А пра тое, што звычайнаму беларусу стала няпроста адпачыць у айчынных санаторыях, якіх у нас вялікая колькасць, пішуць нават дзяржаўныя газеты.

Зрэшты, прыведзеныя факты вядомыя кожнай беларускай сям'і, у якой гадуюцца дзеці; тым, хто звяртаецца да медыкаў і хто мае патрэбу ў адпачынку ў санаторыях. Тым больш не зразумела, на каго разлічаныя, мякка кажучы, фантазіі акадэміка Рубінава пра «бясплатную» Беларусь.

**Сямён Печанко**

# Таямніцы Крэва

**Крэўскія ваколіцы маюць не меншую гістарычную каштоўнасць за замак. Піша Алег Дзярновіч.**

Дваццаць гадоў таму, калі я толькі скончыў універсітэт, мне даводзілася браць удзел у раскопках Крэўскага замка. Мінулым летам зноў туды вярнуўся. З ініцыятывы Дабрачыннага фонду «Крэўскі замак», які здолеў наладзіць канструктыўныя адносіны з мясцовымі ўладамі, археалагічнае вывучэнне Крэва аднавілася. Наша нядоўгая разведка ладзілася для таго, каб вызначыць межы гістарычнай ахоўнай зоны мястэчка.

Крэва не заўжды было такім, як сёння, — з замкам XIV ст., рынкавым пляцам і расцягнутымі ўздоўж шляху на Смаргонь сялібамі. У ваколіцах замка археолагі не знайшлі ніводнага артэфакта, старажытнейшага за сам замак. Ды і мясціна гэтая ў вільготнай сутоках рачулак Краўлянка і Шляхцянка, была не самым прыдатным для жыцця месцам.

Праўдападобна, найдаўнейшае Крэва знаходзілася воддаль, за 2 км на паўднёвы ўсход, побач з яшчэ адным помнікам археалогіі — Крэўскім гарадзішчам. Але пабудова вялікакняскай рэзідэнцыі пераарыентавала мястэчка: людзі пачалі сяліцца бліжэй да Віленскага шляху. З часоў Альгерда і Ягайлы Крэва пачало набываць звыклыя нам абрысы.



Раскопкі на Юравай гары.

**Згодна з праграмай «Замкі Беларусі»**

у Крэўскім замку плануюць аднавіць паўночную, княскую вежу. На Крэва выдаткуюць 2 млрд 500 млн цягам 2012—2015 гадоў.

### Мікольская царква

Замак і цэнтр мястэчка ляжалі ў самай нізіне. А на вяршынях вакольных пагоркаў стаялі храмы. Большасць з іх не захавалася. Мы мелі задачу знайсці падмуркі адной з такіх цэркваў — Мікольскай. Гэтая драўляная, у далейшым уніяцкая царква была вядомая з XVI ст. Яна некалькі разоў перабудоўвалася, але канчаткова была знішчаная ў гады Першай сусветнай. Прадмесце, якое ўтваралася вакол яе, таксама называлася Мікольскім.

Нам удалося выявіць мураваныя падмуркі храма на адным з незабудаваных узгоркаў, на ўсход ад замка. Праваслаўная царква паставіла там крыж у памяць пра храм. Вакол царквы знаходзіліся старажытныя могілкі. Невялікі шурф, закладзены ў самым цэнтры храма, трапіў проста на пахаванне.

Мець справу з пахаваннямі — частка прафесіі археолага. Але дзяўчатам-валанцёркам, якія працавалі ў фон-дзе, было відавочна некамфортна. Яны стараліся пазбягаць шурфа, у якім усё ясней праглядаўся чалавечы касцяк. Для мяне было проста ўдачай, што сярод валанцёраў былі і студэнты-гісторыкі з БДУ, якія мелі археалагічную практыку і мацнейшыя нервы.



**Мікольская царква. Пахаванне. Гузікі сярод костак.**




**Рэканструкцыя мястэчка Крэва XVI ст. Аўтар — архітэктар Андрэй Шулаеў.**
**1. Крэўскі замак.**
**2. Мікольская царква.**
**3. Касцёл.**

### Жупан ці чамара?

Хто быў той мужчына, пахаваны ў царкве? Ён загінуў даволі маладым. Пра гэта сведчаць, у тым ліку, яго выдатныя зубы. Ён менавіта загінуў — чэрап прабіты каля скроні. Само пахаванне можна датаваць канцом XVI ст.: пра гэта сведчаць знойдзеныя побач манеты і характэрная кераміка.

Быць пахаваным у храме — вялікі гонар. Хутчэй за ўсё, гэта быў альбо крэўскі месціч, які паходзіў з сям'і фундатараў царквы, альбо мясцовы шляхціц. У крэўскай глебе сведчанні мінулага дрэнна захоўваюцца: яна вільготная і няшчыльная. Труна, у якой ляжаў нябожчык, спрахла, як і адзежа. Паміж рэбрамі, у чорнай зямлі, у два шэрагі ляжалі толькі металічныя гузікі, на якія яна зашпілялася.

Знайсці сярэднявечныя шарападобныя гузікі дыяметрам 1,5 см — не такая ўжо рэдкасць на раскопках. Але наш выпадак цікавы тым, што мы маем гузікі in situ — некранутымі, «на сваім месцы». У што апранулі крэўца ў апошні шлях? Праўдападобна — у жупан, хатнюю і вулічную вопратку мяшчан і шляхты. Гэта даўгаполая вопратка з сукна, пашыраная ўніз ад лініі таліі. Апраналі яго на кашулю. Ад каўняра да таліі жупан зашпіляўся на гузікі або гаплікі. Бывала, гузікі нашывалі ў два шэрагі.

Яшчэ на крэўцу магла быць чамара. Беларуская шляхта насіла гэту доўгую, адразную па таліі, у зборку, вопратку. У Расіі чамара не была вядомая. За каралём Станіславам Аўгустам насілі суконныя чамары з кароткімі рукавамі, якія абшываліся матузкамі на грудзях і каля пояса. Менавіта пра суконную чамару піша Адам Міцкевіч: «Мне пашчасціла яшчэ ў маленстве Касцюшку бачыць. А ў чым хадзіў герой наш? У сукмане — чамарцы простай...»

Але ўсё ж чамара рэальна пашырылася з XVIII ст. і больш нагадвала сённяшняе паліто. Больш верагодна, што прыхаджанін крэўскай Мікольскай царквы быў пахаваны ў жупане.



**Шляхецкі касцюм: жупан з двума шэрагамі гузікаў і апранутая паўзверх яго ферязь. Партрэт Германа Дэнгафа. Невядомы мастак, 1633 г.**

### Начны пажар

Ноч пасля таго, як мы знайшлі пахаванне, выдалася трывожнай. Я прачнуўся ад моцнага сухога трэску шыферу ў агні: за ракой палаў свіран. У наступную хвіліну прыйшло разуменне, што гарыць свіран па суседстве з сядзібай, ля якой я прыпаркаваў машыну. А ў ёй — камп'ютар з запісамі, прылады, матэрыялы... Даўно я так не бег насустрач феерычнаму відовішчу — начному слупу агню, ад якога салютам разляталіся кавалачкі распаленага шыферу.

Для мяне ўсё скончылася без стратаў, збітая аб камень нага — не ў лік. Свіран жа і суседнія пабудовы згарэлі цалкам. Колькі разоў я чытаў у летапісах і дыярыюшах пра пажары ад маланкі, але думаў, што даўнія аўтары перабольшвалі іх небяспеку для нашай цывілізацыі дрэва. Пераканаўся — не перабольшвалі. Яшчэ ўвечары, калі толькі пачыналася раптоўная ліпеньская бура, мы бачылі, як шуганула ў той бок маланка. Прайшло некалькі гадзін пад залеваю, і агонь нарэшце заняўся.

### Юрава гара

Раскопкі сезона 2011 года скончыліся даследаваннем Юравай гары. Вакол яе ішла спрэчка: ці варта ўключаць гару ў гістарычную ахоўную зону?

Крэўскі замак пабудаваны ў адной з найглыбейшых нізінаў, хоць навокал працягнуліся чароды маляўнічых пагоркаў. Здавалася б, на ўзвышшах і варта было ставіць замак. Але ў нізіне кастэлю (нямецкі тып замкаў, да якога належыць і Крэўскі — чатырохкутная фартэцыя з вежай) прасцей бараніць: праз балаціны цяжка падагнаць сценабітную тэхніку. Дый на пагорку не збудуеш вялікай фартэцыі, а ў Крэўскім замку (трапецыя з мурамі 85 х 109 х 72 х 97 метраў) у выпадку небяспекі магло хавацца ўсё мясцовае насельніцтва. Яшчэ адзін плюс нізіны — няма праблемы з вадою ў часе аблогі.

Але і навакольныя пагоркі мусілі быць уключаныя ў сістэму абароны. У Жмудзі на такіх узвышэннях стаялі назіральныя пасты: ад пагорка да пагорка, запальваючы вогнішчы, вартавыя перадавалі навіну пра крыжацкі рэйд. Да таго ж, Юрава гара — самая высокая кропка наваколля, яна літаральна навісае над замкам з усходу. Вораг, стаўшы на ёй, мог абстрэльваць замкавы двор з дальнабойных арбалетаў. Гара папросту мусіла быць уключаная ў сістэму абароны замка.

Наш малы раскоп сеў проста на кут будынка. Дакладней, на кантрафорс — выступ сцяны са сцяны, які ўмацоўваў нясучую канструкцыю. Я далёкі ад думкі, што будынак той быў узведзены адначасова з замкам у XIV ст. Але ў познім Сярэднявеччы — раннім Новым часе на Юравай гары існавала пабудова, якая дамінавала над мястэчкам. Нехта пры моцным жаданні гатовы пабачыць у гэтых падмурках рэшткі капішча, пра якое існуе легенда, хтосьці — частку знешняй абарончай сістэмы замка. Пэўнага адказу пакуль няма.

Як для некалькіх шурфоў, дык сезон 2011 года выявіўся багатым на знаходкі. Прынамсі, стала зразумела, што пад ахову дзяржавы трэба браць не толькі сам замак, але і яго наваколлі. Беларускае заканадаўства пакуль не дае магчымасці браць пад ахову такі від аб'ектаў, як гістарычна-культурныя ландшафты. Хоць у суседняй Літве гэтая катэгорыя культурнай і прыроднай спадчыны добра распрацаваная.

Сённяшняе Крэва — усяго толькі вёска. Можа, дзякуючы гэтаму, яго старажытнасці лепш захаваліся, чым замкі ў гарадах.

У зацверджаную сёлета Саўмінам праграму «Замкі Беларусі» ўнесенае і Крэва. Абмежаваныя інвестыцыі і беларускія будаўнікі хутка прыйдуць і ў гэтае мястэчка. Ці ўдасца нам нешта аднавіць, не страціўшы большага?

**Крэўскі замак**

(в.Крэва, Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці) пабудаваны пасля 1338. Належаў вялікаму князю Гедыміну, пасля — Альгерду. У 1382 у замку на загад Ягайлы Альгердавіча былі зняволеныя князі Кейстут і Вітаўт. Вітаўту ўдалося ўцячы, а Кейстут быў задушаны. У 1385 у Крэве была падпісаная Унія, дзяржаўны саюз між ВКЛ і Польшчай. У 1503—1506 замак моцна разбурыла татарскае войска. Ацалелая частка была моцна пашкоджаная падчас Першай сусветнай вайны.

# Футбол. 1 тур


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На выходных стартуе 22-і чэмпіянат Беларусі па футболе.** Сёлета ён будзе троху абсечаны, з няцотнай колькасцю каманд — адзінаццаццю. Мінскі «Партызан» праз фінансавыя праблемы адмовіўся ад удзелу. БАТЭ будзе імкнуцца абараніць тытул. А вось мінскае «Дынама», «Шахцёра», «Гомель», «Белшына», «Тарпеда-БелАЗ» паспрабуюць скласці канкурэнцыю 8-разоваму чэмпіёну краіны.
**24 сакавіка:** «Славія» (Мазыр) — «Нёман» (Гродна). Матч адбудзецца ў Хойніках.
«Мінск» — БАТЭ (Барысаў). Стадыён «Дынама».
«Белшына» (Бабруйск) — «Брэст». Матч адбудзецца ў Жлобіне.
**25 сакавіка:** «Нафтан» — «Шахцёр». Сустрэча адбудзецца ў Віцебску.
«Гомель» — «Дынама» (Мінск). Цэнтральная сустрэча тура ў Гомелі.

## ІМПРЭЗЫ

### Рок-каранацыя

**31 сакавіка а 18-й у Палацы культуры Маладзечна (Цэнтральная пл., 4)** — «Рок-каранацыя». Удзел бяруць Drum ecstasy, Зьніч, Akute, ZM99, Аляксандр Кулінковіч ды іншыя.

### Танцы і гульні для Вас

**Штосераду ад28 сакавіка а 19-й у ПК МАЗ (пр.Партызанскі, 117а)** — танцы і гульні для Вас. У праграме — беларускія і еўрапейскія народныя танцы, песні, карагоды, гульні, забаўлянкі і жывая музыка. Даведкі па т.: (29)372-38-39.

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**30 сакавіка а 19-й у Rocker Bar (Талбухіна, 4, 3 паверх)** — Neuro Dubel.

### Канцэрт старадаўняй музыкі

**25 сакавіка а 16-й у канцэртнай зале «Верхні горад» (пл.Свабоды, 25)** — канцэрт старадаўняй музыкі ў выкананні Сусаны Рэгель (барочны габой, Германія)

## ВЫСТАВЫ

### Маладзёжная-2012

**Да 25 сакавіка ў Палацы мастацтва** працуе мастацкая выстава «Маладзёжная-2012». Не абмежаваная пэўнай тэматыкай, выстава дае яе маладым удзельнікам шмат свабоды, пачынаючы з выбару фармату, тэхнікі, кампазіцыйнай прасторы, каларыстычнай, жанравай разнастайнасці…

### Літарт-2012

**Да 25 сакавіка ў Палацы мастацтва (Казлова, 3)** працуе 6-я рэспубліканская мастацкая выстава шрыфта і каліграфіі «Літарт-2012». Сапраўдная каліграфія — гэта нюансы і віртуознасць, на якіх будуецца высокае мастацтва. Каліграфія на сучасным этапе адваёўвае сваю прастору ў агульнай культуры, таму на выставе прадстаўлены шырокі дыяпазон творчых пошукаў у розных тэхніках і накірунках.

### Яно тут

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 47а)** да 30 сакавіка працуе персанальная выстава Антаніны Слабодчыкавай «Яно тут». Антаніна Слабодчыкава не першы год правакуе беларускага і замежнага гледача сваімі яркімі непаўторнымі працамі. Каханне, вера, узаемаадносіны паміж людзьмі, узаемадзеянне мастацтва і гарадской прасторы, сацыяльна арыентаванае мастацтва — асноўныя тэмы яе мастацкіх даследаванняў. Жывапіс, калаж, відэа, перформанс…

### Кветкі неба — зоркі зямлі

**Да 25 сакавіка ў Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава мастацкага ткацтва Алы Непачаловіч «Кветкі неба — зоркі зямлі». Мастачка не проста адраджае тэхналогіі і прыёмы народнага ткацтва. З дапамогай простых формаў, арнаментальных малюнкаў яна стварае сучасныя вобразныя структуры.

### Скарбы Нясвіжа

**Да 27 сакавіка ў галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі** працуе фотавыстава Віктара Данілава «Скарбы Нясвіжа». У экспазіцыю ўвайшло каля 60 работ Віктара Данілава, прысвечаных палацава-паркаваму комплексу, касцёлу Божага Цела, а таксама помнікам гістарычным, культурным і рэлігійным дзеячам, сучасным падзеям і святам Нясвіжа.

### Берлін. Фотаздымкі

**Да 23 сакавіка ў Палацы мастацтва** працуе выстава нямецкага фатографа Герыта Энгеля «Берлін. Фотаздымкі». Упершыню ў Беларусі гледачам прапануюцца 42 фотаздымкі, зробленыя Герытам Энгелем падчас яго працы над аднайменным альбомам, які выйшаў у свет у Германіі ў 2009 годзе.

### У свеце фантазій і чарадзейства

**Да 31 сакавіка ў бібліятэцы імя Пушкіна (Гікалы, 4)** працуе выстава аматараў вышывання «У свеце фантазій і чарадзейства». На выставе прадстаўленыя 130 вышываных працаў, выкананых у самых розных тэхніках і відах, — казачныя героі, фантазійныя краявіды, феі, адзінарогі, пегасы, цмокі…

### Кветкавы рай V

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 29 сакавіка** працуе мастацкая выстава «Кветкавы рай V». Кветкі суправаджаюць людзей усё жыццё. Са старажытных часоў амаль ва ўсіх народаў свету прынята сустракаць і суправаджаць у асабліва важных выпадках кветкамі. Сёлета на выставе можна ўбачыць не толькі творы жывапісу, графікі, фота- і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і эксперыментальныя кампазіцыі з разнастайных матэрыялаў.



### Гуканне вясны

**24 сакавіка з 13-й да 16-й Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах** запрашае дзяцей і дарослых на «Гуканне вясны». Вас чакаюць: сустрэчы з гаспадарамі музейных сядзіб, якія пазнаёмяць з веснавымі святамі, народнымі прыкметамі і раскажуць пра традыцыйныя абрадавыя стравы гэтых дзён; майстар-класы па вырабу выцінанак, «жаваранкаў» з салёнага цеста, галінак вярбы і паперы; конкурсы на лепшую веснавую птушку «Жавароначкі, прыляціце — 2012» і дзіцячага малюнка «Веснавыя навеі»; выступленні музычных і фальклорных калектываў.

## ТЭАТРЫ

### 23 сакавіка

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Оперы і балета** — вечар аднаактных балетаў
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Ноч на КалядЫ»

### 24 сакавіка

**Лялек** — «Піпі Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Оперы і балета** — вечар аднаактных балетаў
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 25 сакавіка

**Лялек** — «Піпі Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

### 26 сакавіка

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Купалаўскі** — «Хам»

### 27 сакавіка

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладына»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 28 сакавіка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 29 сакавіка

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»

### 30 сакавіка

**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

### 31 сакавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

## КІНО

### Жанчына ў чорным

Вялікабрытанія, 2012 г., 95 хв.
**Жанр:** Трылер, жахі
**Рэжысёр:** Джэймс Уоткінс
**Акцёры:** Дэніэл Рэдкліф, Кірэн Хайдз, Джанэт Макцір, Дэвід Бурк, Шон Дулі
**У пракаце** да 18 красавіка 2012

1920-я. Малады юрыст Артур Кіпс, які выхоўвае маленькага сына (прыгажуня-жонка памерла падчас родаў), атрымлівае ад свайго начальства адказнае заданне: яму трэба адправіцца ў глухую вёсачку, размешчаную дзесьці на паўночна-ўсходнім узбярэжжы Англіі, каб разабрацца там з паперамі нябожчыцы місіс Эліс Дрэблоу, былой уласніцы сядзібы Іл-Марш, прызначанай для продажу.
Артура чакае не самы цёплы прыём: жыхары вёсачкі сустракаюць яго нядобразычлівым маўчаннем, а то і адкрытай варожасцю. Артур прымаецца за папяровую працу, але, расчыніўшы акно, заўважае на могілках сілуэт жанчыны ў чорнай сукенцы. Заінтрыгаваны, Артур выбягае з хаты — і трапляе ў шчыльнае воблака туману, у якім чутны адчайныя дзіцячыя крыкі...
Рэжысёр Уоткінс абраў для класічнай гісторыі з прывідам класічную стылістыку готыкі, суровых ландшафтаў поўначы Брытаніі, малочна-белых туманоў і смяротна небяспечных тарфяных балотаў.

**Gazeta.ru**



# Як трапіць на Чэмпіянат Еўропы па футболе?

Многія паедуць **у Польшчу і Украіну** і без набытых білетаў.

Ужо ў чэрвені на васьмі стадыёнах Украіны і Польшчы пройдзе галоўная футбольная падзея года — Чэмпіянат Еўропы. Беларуская зборная, на жаль, зноў не здолела трапіць у фінальны раўнд. Аднак айчынныя заўзятары ўсё адно рыхтуюцца паехаць на чэмпіянат, каб жыўцом убачыць найлепшыя зборныя кантынента і адчуць атмасферу спартыўнага свята.

Яшчэ б — арганізатары чакаюць, што гульні змогуць наведаць каля 1 мільёна чалавек. Невялікая адлегласць да Польшчы і Украіны ды бязвізавы рэжым з апошняй дае беларусам выдатную магчымасць з'ездзіць на футбол, не патрацішы на гэта шмат грошай.

Такім чынам, некалькі асноўных варыянтаў, як правесці Чэмпіянат Еўропы не на канапе.

### Варыянт 1. Білет праз інтэрнэт

Сістэма продажу білетаў заўзятарам не змяняецца з года ў год, аднак па-ранейшаму не выглядае прывабнай для беларусаў. З 1,4 мільёна білетаў праз сайт УЕФА прадаваўся 1 мільён. І на ягоналяцела больш за 12 мільёнаў патэнцыйных пакупнікоў!




**Сімвалы чэмпіянату — паляк Славек і ўкраінец Слаўко.**

Набыць білеты можна было, калі папярэдне зарэгістравацца на сайце і, галоўнае, аплаціць куплю праз інтэрнэт. Гэта і адсеяла многіх беларусаў, якія не маюць патрэбных картак для аплаты.

Білеты ў інтэрнэце ўжо прададзеныя, таму цяпер застаецца шукаць іх у спекулянтаў. Улічваючы невысокія заробкі ў Польшчы і тым больш ва Украіне, арганізатары зменшылі цану білетаў. У выніку самыя-самыя танныя каштавалі 30 еўра — за месца за варотамі, на матчы групавога этапу. Самы дарагі — 600 еўра на фінал у Кіеве.

А вось пры перапродажы даводзецца заплаціць у 2—10 разоў больш, у залежнасці ад «прэстыжнасці» гульні. Пакуль што ў беларускім інтэрнэце можна знайсці не больш за дзясятак аб'яў аб продажы, аднак чым бліжэй будзе чэмпіянат, тым актыўней будуць размяшчацца такія прапановы.

Адкуль білеты ў спекулянтаў — невядома, таму што саміх білетаў фізічна яшчэ няма. Яны будуць надрукаваныя за месяц да чэмпіянату.

УЕФА папярэджвае, што білеты з'яўляюцца іменнымі і іх перапродаж магчымы толькі на сайце арганізацыі, прычым па намінальным кошце. Праўда, многія перакана領ныя, што УЕФА толькі запалохвае перакупшчыкаў і ніякага пашпартнага кантролю на стадыёнах насамрэч не будзе.

### Варыянт 2. Турфірма

Нейкую частку білетаў атрымалі для распаўсюду ліцэнзаваныя турыстычныя кампаніі з краінаў, зборныя якіх будуць гуляць на Еўра-2012. Беларускія турфірмы, у сваю чаргу, перакупляюць білеты ў замежных калег.

Напрыклад, у кампаніі «Вояж-Тур» карэспандэнту «НН» паведамілі, што за 11-дзённы тур на тры гульні зборнай Расіі (з Чэхіяй, Польшчай і Грэцыяй) даводзецца заплаціць 1650 еўра. У гэты кошт уключана і пражыванне ў гатэлях Варшавы і Вроцлава. Прычым выкупіць у турфірмы асобна білеты на футбол, без астатняй праграмы, немагчыма.

Намеснік дырэктара кампаніі «Тусон Вояж» Руслан Сегянюк, мяркуе, што турысты будуць самастойна арганізоўваць паездкі, а турфірмы будуць дапамагаць толькі з візамі і білетамі на матчы.

### Варыянт 3. Без білета

Зрэшты, тысячы беларусаў на цягніках, аўтамабілях ці аўтастопам гатовыя ехаць на чэмпіянат і без білета ў кішэні. Гульні пройдуць у Варшаве, Познані, Гданьску і Вроцлаве з польскага боку, а таксама ў Кіеве, Харкаве, Данецку і Львове ва Украіне. Прыехаўшы ў любы з гэтых гарадоў, можна будзе ўліцца ў шматтысячныя вясёлы натоўп фанатаў ды паглядзець футбол на вялікіх экранах.

Вось толькі пра жыллё варта паклапаціцца загадзя. Напрыклад, зараз ва ўкраінскіх хостэлах койка-месца каштуе да $10, аднак падчас чэмпіянату за яго папросяць у чатыры-пяць разоў больш. Тое ж датычыцца і менш камфортнага жылля — у чэрвені за начоўку ў двухмесным намёце даводзецца заплаціць $100. Цэны ў Польшчы будуць яшчэ больш высокімі, чым ва Украіне.

Многія заўзятары гатовыя пераначаваць і ва ўласным аўто. Ноч на ахоўваемым кемпінгу каштуе каля $50, аднак можна будзе заначаваць і на звычайных паркоўках. Цёплы чэрвень будзе гэтаму спрыяць, як і хаатычна пастаўленым намётам пасярод украінскіх гарадоў. Зрэшты, праз асаблівасці мясцовага заканадаўства замежнікі фактычна могуць і не плаціць штрафы за адміністрацыйныя парушэнні. А вось у Польшчы небяспека трапіць на грашовае пакаранне значна большая.

**Ягор Марціновіч**




**Папярэднія чэмпіянаты Еўропы і свету выйграла зборная Іспаніі.**

Турызм

## Куды ездзяць адпачываць беларусы?

І хто **прыязджае ў нашу краіну.**

Нацыянальны статыстычны камітэт падвёў вынікі турыстычнага 2011 года. Праз крызіс колькасць арганізаваных турыстаў рэзка скарацілася. Летась іх налічылі 320 тысяч чалавек, на чвэрць менш, чым пазалетась, і столькі ж, як і ў 2009. Куды перадусім ездзілі беларусы?

### Украінскі бераг самы блізкі

Самай папулярнай краінай застаецца Украіна. Крымскія і адэскія пляжы, разам з экскурсіямі ў Кіеў і Львоў зацікавілі амаль 80 тысяч беларусаў. Дарэчы, у статыстыку ўключаныя і наведнікі шоп-тураў у Хмяльніцкі.

У Турцыю выязджалі 58 тысяч чалавек, у Егіпет — 30 тысяч чалавек. На чацвёртым і пятым месцы Балгарыя (26 тысяч) і Расія (22 тысячы) адпаведна. Тая ж пяцёрка найлепшых была і ў 2010, прытым у такім самым парадку. Ва ўсе пералічаныя краіны прыехала менш нашых турыстаў, чым год таму. Затое беларусы сталі часцей адпачываць у Літве, Грэцыі і Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

### Шакуючае з'яўленне новазеландцаў

Беларускі фінансавы крызіс і падзенне многіх цэнаў у валютным эквіваленце маглі прывесці ў краіну многіх ашчадных замежных турыстаў, аднак актыўней сталі ездзіць хіба што толькі расійцы. Іх налічылі 84 тысячы чалавек замест 81 тысячы ў 2010 годзе.

Услед за імі ў справаздачы туркі (3 600 чалавек), літоўцы (3 200 чалавек) і... грамадзяне Новай Зеландыі (3 100 чалавек). Сітуацыя з апошнімі склалася камічная, бо ў 2010 годзе прыехала ўсяго 17 чалавек. Відаць, такі парадокс сведчыць пра памылку Белстата.

На пятай прыступцы палякі (3 000 чалавек). Сярод стратаў турбізнэсу — рэзкае скарачэнне паездак брытанцаў у Беларусь. Турыстаў з гэтай краіны налічылі 2400 чалавек, хоць яшчэ нядаўна было 6 200 чалавек.

**ЯМ**

**Беларусы на выездзе**

Украіна — 80 тысяч чалавек

Турцыя — 58

Егіпет — 30

Балгарыя — 26

Расія — 22

**Госці Беларусі**

Расія — 84 тысячы чалавек

Турцыя — 3 600

Літва — 3 200

Новая Зеландыя — 3 100

Польшча — 3 000

## У Мінску адкрыўся самы танны хостэл

Ноч каштуе ад **65 тысяч рублёў.**

У сталіцы адкрылася новая моладзевая гасцініца «Х.О» («Х.О.стэл»). Яна знаходзіцца па адрасе зав. Каржанеўскага, 8а. Гэта раён Курасоўшчына, побач з паркам «Сонечная даліна» і «Белай дачай».

Хостэл разлічаны на 60 чалавек. Для гасцей прапануюцца нумары на шмат месцаў, канферэнц-зала, кухня, душ і бясплатны інтэрнэт.

Кошты за койка-месца стартуюць ад $8 — для непаўнагадовых і камандзіровачных. Для звычайных наведвальнікаў начоўка будзе каштаваць $10—14. Існуюць і «спецтарыфы». Напрыклад, студэнт можа засяліцца на месяц за $80.

**ЯМ**



**Астатнія хостэлы Мінска:**

«Пастаялец». Адрас — Партызанскі праспект, 147. Месца — $12.

Jazz. Адрас — Мазырская, 37а. Месца — 10 еўра.

«Хостэл Traveler». Адкрыецца вясной, адрас невядомы. Месца — $15.




17 сакавіка ў парку Дружбы народаў адбыўся своеасаблівы флэшмоб. У неба былі запушчаныя сотні кітайскіх ліхтарыкаў. Прыгожа і арыгінальна. У мерапрыемстве ўдзел узялі да 2000 чалавек. Што цікава, сярод запушчаных ліхтарыкаў, насуперак жаданню арганізатараў, былі і паветраныя караблі з палітычнымі надпісамі.



**Дэпутат расійскай Думы, старшыня камісіі па культуры Гаварухін гладзіць па азадку калегу-дэпутатку. На апошніх прэзідэнцкіх выбарах Гаварухін быў кіраўніком штаба Уладзіміра Пуціна.**




**Новая культурная з'ява мінскага жыцця. 17 сакавіка ў барах і рэстаранах, дзе наліваецца ірландскае піва, адзначаецца Дзень святога Патрыка. Замовіць столікі на гэты дзень магчыма хіба за месяц. Людзі апраналіся ў зялёнае, а на целах малявалі сімвал Ірландыі — трылiснік канюшыны.**



**Такой чаргі Дом-музей РСДРП у Мінску не бачыў даўно. Праўда, паглядзець жыхары і госці сталіцы прыйшлі не на артэфакты, звязаныя з рэвалюцыянерамі, а на экзатычных матылёў.**

## Анекдоты

* * *

Новая беларуская 200-тысячная купюра мае аж дзесяць ступеняў абароны. Сярод іншага, банкнота будзе свяціцца ў цемры. Але асвятляць ёй цёмныя завулкі, позна вяртаючыся дахаты, не рэкамендуецца.

* * *

– Каханы, паглядзі, калі ласка, у інтэрнэце, як мэблю ў кватэры па фэншуй расставіць?

– Мілая, па фэншуй нашу Малінаўку нагул знесці трэба...

* * *

Дзень Канстытуцыі можа святкаваць толькі той, хто яе не чытаў, а калі і чытаў, то нічога не зразумеў.

* * *

Дзівосная рэч — інтэрнэт. Учора зайшла на пяць хвілін, а выйшла праз дзве гадзіны.

* * *

— Кума, як ты думаеш: што раней было — яйка ці курыца?

— Э, куме, раней усё было...

* * *

Ваяры святла і цемры сышліся ў бітве ў трансфарматарнай падстанцыі. Мяркуючы па тым, што святло знікла другі раз за вечар, сілы цемры перамагаюць...

* * *

Беларускі ноўтбук «Зубр» на выставе тэхнічных навінак у Ганконгу заняў усё месца.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нясвіж.** Ужо тутэйшыя жыды нагатавалі на пэйсах мацы, калі агледзеліся, што вада ў студні занячышчэна. Там знайшлі ўтопленае дзіця. Калі пачалі ачышчаць студню, то пераканаліся, што яно было зажыва ўтоплена з камянём, прывязаным на шнурку, а калі шнурок адгніў, то дзіцё і выплыла наверх. І цяпер бедныя жыды аж плачуць, што зглумілася маца.

**«НН». №11. 1912.**

**Адпачыў на ўсю катушку.** Лукашэнка правёў свой адпачынак у 5-зоркавым гатэлі «Клястэрброй», інтэрнэт-сайт якога рэкламуе гэтую ўстанову як «самы шалёны гатэль у Альпах». Адны суткі ў апартаментах, што заняў беларускі прэзідэнт, каштуюць 780 еўра. Дзесяцідзённае пражыванне пад Інсбрукам абышлося ў суму, якая перавышае ягоны афіцыйны гадавы заробак.

**«НН». №11. 2002.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 20.03.2012.
Замова № 1240.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12